

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 12(83) Сьнежань 2000 December Год выд. 8.


# КАЛЯДЫ



**Хрыстова Нараджэньне -- людзям на збаўленьне**

**Вось і наблізіўся сьвяты Калядны час. Хутка-хутка ў цёмным вечаровым небе ўспыхне першая зорачка, і мільёны хрысціян паўтораць словы, праспяваныя анёламі ў Віфлееме і прамоўленыя пасля самім Госпадам нашым Ісусам Хрыстом: "Слава на вышынях Богу, а на зямлі спакой людзям добрай волі!".**

У ціхую Калядную ноч без малога дзве тысячы год таму здарылася тое, што і павінна было здарыцца -- на зямлі палесцінскай нарадзіўся Збавіцель свету Ісус Хрыстос.

Першымі дазналіся пра нараджэнне Збавіцеля віфлеемскія пастухі. Раптам зьявіўся перад імі анёл Божы, і святло Гасподняе азарыла іх, яны ж разгубіліся. Анёл сказаў ім: "Не бойцеся, я абвяшчаю вам вялікую радасьць, якая будзе ўсім людзям. Цяпер нарадзіўся вам у горадзе Давідавым Збавіцель, Хрыстос Гасподзь. І вось вам знак, па якім вы пазнаеце Яго: вы знойдзеце Дзіця, спавітае ў яслях". Толькі анёл сказаў гэта пастухам, як нечакана з'явілася з ім мноства воінства нябеснага, спяваючы: "Хвала на вышынях Богу, а на зямлі спакой людзям добрай волі!". Калі анёлы зьніклі, пастухі сказалі адзін аднаму: "Хадзем у Віфлеем і паглядзім, што там здарылася". Яны прыйшлі ў пячору і ўбачылі Марыю, Язэпа і Дзіця, што ляжала ў яслях. Пакланіўшыся дзіцяці, пастухі расказалі, што ім было пра Яго абвешчана. Марыя ж захоўвала ўсе іхнія словы ў сваім сэрцы. Пасьля гэтага пастухі вярнуліся да сваіх статкаў, славячы і дзякуючы Богу за ўбачанае і пачутае.

Паводле закону, на восьмы дзень пасля нараджэньня Дзіцяці, Маці Яго з Язэпам далі яму імя Ісус, як было ўказана Дзеве Марыі Госпадам праз анёла (Ісус -- азначае Збавіцель; Хрыстос -- Божы пасланец, месія). Услед за гэтым прыйшлі з Усходу ў Іерусалім вестуны-астролагі і пачалі пытацца: "Дзе Цар Іудзейскі, які нарадзіўся? Мы бачылі зорку Яго на ўсходзе і прыйшлі пакланіцца Яму". Калі ж дазнаўся пра гэта цар Ірад, то надта ўсхваляваўся, бо думаў, што нованароджаны цар адбярэ ў яго пасад. Ён сабраў першасвятароў і вучоных-кніжнікаў і запытаў: "Дзе мае нарадзіцца Хрыстос?". Тыя адказалі: "У Віфлееме, як прадказана парокам Міхеем". Тады Ірад, сабраўшы вестуноў, выведаў у іх час зьяўлення Зоркі і сказаў ім: "Ідзіце, разведайце пра Дзіцятка, а калі знойдзеце, то паведаміце мне, каб і я яму пакланіўся". Сам жа надумаў загубіць Ісуса.

Вестуны падаліся ў Віфлеем следам за зоркай, якая рухалася перад імі і прывяла да месца, дзе было Дзіця. Яны ўвайшлі ў пячору, убачылі Дзіця з Маці Яго, пакланіліся і паднеслі Яму сімвалічныя дары: золата -- як цару, ладан -- як Богу, і смірну -- як прысуджанаму да пакарання смерцю. Атрымаўшы затым у сьне папярэджаньне ад Бога не вяртацца да Ірада, вестуны вярнуліся ў сваю краіну кружным шляхам...

З тае далёкае даўніны і па сёння хрысціяне ўсяго свету адзначаюць Божае Нараджэнне як самы светлы дзень у сваёй гісторыі.

Свята Божага Нараджэння хоць і адно для ўсіх хрысціян, але ж адзначаецца імі ў розныя дні: каталікамі -- 25 снежня (па грыгарыянскім календары), а праваслаўнымі -- 7 студзеня (па юліянскім). І яшчэ адна асаблівасьць, якая характэрна для Божага Нараджэння, што адзначаюць праваслаўныя. З язычніцкіх часоў Каляды на Беларусі (7 студзеня) былі пачаткам сьвяткавання ў гонар зімовага сонцавароту і Каляднага мясаеду пасля шасцітыднёвага піліпаўскага посту. Так і сталася, што на язычніцкае сьвяткаваньне зімовага сонцавароту наслаіўся хрысціянскі рытуал Божага Нараджэння. На Каляды ва ўсе часы насілі рухомую, асветленую знутры Зорку. У старыя, дахрысціянскія часы Зорка была ўвасабленнем сонцавароту, а з прыняццем хрысціянства яна набыла яшчэ і біблейскія рысы Віфлеемскай Зоркі, якая асвяціла месца цудоўнага нараджэння Хрыста. У гэтыя дні часцей за ўсё спявалі, ды і зараз спяваюць, хрысціянізаваныя калядкі:

Хрыстос нарадзіўся,
Бог аб'явіўся,
Ангелы сьпяваюць,
Пастушкі іграюць,
Дзіва, дзіва абвяшчаюць.



У вечаровы Калядны час усе мы паяднаемся ў малітве. У гэтую жыццядайную ноч мы ўхвалім нашага Госпада Ісуса Хрыста, папросім Ягонага блаславення нашым сем'ям, нашай зямлі і Радзіме. Няхай жа шчодра адорыць Ён сваёй ласкай усіх нас. Няхай атуліць сваёй апекай, прынясе роду людскому спакой, згоду і любоў, напоўніць нашыя сэрцы радасцю і надзеяй на лепшае заўтра. А яшчэ няхай Віфлеемская Зорка асветліць нашыя думкі і пачуцці, памкненні і добрыя справы.

З Божым Нараджэньнем вас, дарагія суайчыньнікі!

Г. ЧЫГІР.





## ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 2001-га ГОДУ —

жадае Усім чытачом, выдавец і рэдактар — Мікола Прускі

### НОВА РАДАСЬЦЬ

Нова радасьць стала,
што йшчэ ня бывала:
над Бэтлеей зьвязда ясна
Сьвету зазіяла.

Дзе Хрыстос радзіўся,
з Дзевы ўцелавіўся —
як чалавек пялёнкамі
убога спавіўся.

Пастушкі з ягняткам
перад тым Дзіцяткам
на калені ўпадаюць
Хрыста-Бога ўслаўляюць.

І мы засьпявайма
пакорна ўпрашайма.

Просім Цябе, Божа,
просімо як можам:
дай нам у небе жыццё шчасна,
на зямлі жыццё прыгожа.

(Старая беларуская калядка.)





**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# CONGRESS RESOLUTION #153

*The following resolution, which was introduced in both the House and Senate on October 19, passed the Senate last week (October 25).*

Whereas on October 15, 2000, Aleksandr Lukashenko and his authoritarian regime conducted an illegitimate and undemocratic parliamentary election in an effort to further strengthen the power and control his authoritarian regime exercises over the people of the Republic of Belarus ;

Whereas during the time preceding this election the regime of Aleksandr Lukashenko attempted to intimidate the democratic opposition by beating, harassing, arresting, and sentencing its members for supporting a boycott of the October 15 election even though Belarus does not contain a legal ban on efforts to boycott elections;

Whereas the democratic opposition in Belarus was denied fair and equal access to state-controlled television and radio and was instead slandered by the state-controlled media;

Whereas on September 13, 2000, Belarusian police seized 100,000 copies of a special edition of the Belarusian Free Trade Union newspaper, Rabochy, dedicated to the democratic opposition's efforts to promote a boycott of the October 15 election;

Whereas Aleksandr Lukashenko and his regime denied the democratic opposition in Belarus seats on the Central Election Commission, thereby violating his own pledge to provide the democratic opposition a role in this Commission;

Whereas Aleksandr Lukashenko and his regime denied the vast majority of independent candidates opposed to his regime the right to register as candidates in this election;

Whereas Aleksandr Lukashenko and his regime dismissed recommendations presented by the Organization for Security and Cooperation in Europe (OSCE) for making the election law in Belarus consistent with OSCE standards;

Whereas in Grodno, police loyal to Aleksandr Lukashenko summoned voters to participate in this illegitimate election for parliament;

Whereas the last genuinely free and fair parliamentary election in Belarus took place in 1995 and from it emerged the 13th Supreme Soviet whose democratically and constitutionally derived authorities and powers have been undercut by the authoritarian regime of Aleksandr Lukashenko; and

Whereas on October 11, the Lukashenko regime froze the bank accounts and seized the equipment of the independent publishing company, Magic, where most of the independent newspapers in Minsk are published: Now, therefore, be it

Resolved by the Senate (the House of Representatives concurring),

**SECTION 1. SENSE OF CONGRESS ON BELARUS PARLIAMENTARY ELECTIONS.**

Congress hereby--

(1) declares that--

(A) the period preceding the elections held in Belarus held on October 15, 2000, was plagued by continued human rights abuses and a climate of fear for which the regime of Aleksandr Lukashenko is responsible;

(B) these elections were conducted in the absence of a democratic electoral law;

(C) the Lukashenko regime purposely denied the democratic opposition access to state-controlled media; and

(D) these elections were for seats in a parliament that lacks real constitutional power and democratic legitimacy;

(2) declares its support for the Belarus' democratic opposition, commends the efforts of the opposition to boycott these illegitimate parliamentary elections, and expresses the hopes of Congress that the citizens of Belarus will soon benefit from true freedom and democracy;

(3) reaffirms its recognition of the 13th Supreme Soviet as the sole and democratically and constitutionally legitimate legislative body of Belarus ; and

(4) notes that, as the legitimate parliament of Belarus the 13th Supreme Soviet should continue to represent Belarus in the Parliamentary Assembly of the Organization for Security and Cooperation in Europe.

**SEC. 2. SENSE OF CONGRESS ON DISAPPEARANCES OF INDIVIDUALS AND POLITICAL DETENTIONS IN BELARUS .**

It is the sense of Congress that the President should call upon Aleksandr Lukashenko and his regime to--

(1) provide a full accounting of the disappearances of individuals in that country, including the disappearance of Viktor Gonchar, Anatoly Krasovsky, Yuri Zakharenka, and Dmitry Zavadsky; and

(2) release Vladimir Kudinov, Andrei Klimov, and all others imprisoned in Belarus for their political views.

**SEC. 3. TRANSMITTAL OF RESOLUTION.**

The Secretary of the Senate shall transmit a copy of this resolution to the President.

Passed the Senate October 25 (legislative day, September 22), 2000.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ КАНГРЭСУ ЗША №153

*Тэкст гэтае рэзалюцi, прад'яўлены на разгляд у абедзьве палаты Кнгрэса ЗША 19 кастрычнiка, быў зацьверджаны Сэнатам 25 кастрычнiка.*

15 кастрычнiка 2000г. Аляксандрам Лукашэнкам i яго аўтарытарным рэжымам былi праведзеныя нелегiтымныя i недэмакратычныя парлямэнцкiя выбары, мэтай якiх было ўзмацненьне аўтарытарнага кантролю з боку ўладаў над грамадзянамi Беларусi.

Паколькi пад час передвыбарнае кампанii рэжым Аляксандра Лукашэнкi спрабаваў усяляк запужваць дэмакратычную апазыцыю зьбiцьцём, нерасьледам, арыштамi i прысудамi актывiстаў кампанii па байкоту выбараў 15 кастрычнiка, хаця беларускае заканадаўства i не забараняе байкота выбараў;

Паколькi дэмакратычная апазыцыя Беларусi ня мела роўнага паўнавартаснага доступу да дзяржаўных тэлебачаньня i радыё, а, наадварот, падвяргалася рознага кшталту нападкам з боку гэтых СМI;

Паколькi 13 верасьня 2000г. беларускiмi праваахоўнымi органамi былi канфiскаваныя 100 тысячаў асобнiкаў спэцвыпуска газты Свабоднага Прафсаюза "Рабочы", прысьвечанай кампанii дэмакратычных сiлаў па байкоту выбараў 15 кастрычнiка;

Паколькi Аляксандар Лукашэнка i ягоны рэжым адмовiлiся ўвесьцi прадстаўнiкоў дэмакратычнае апазыцыi ў склад Цэнтарвыбаркама, i тым самым парушылi ўзятае iмi на сябе абавязальнiцтва па прадастаўленьню дэмакратам мейсцаў у ЦВК;

Паколькi Аляксандар Лукашэнка i ягоны рэжым адмовiлi ў праве рэгiстрацыi большасьцi незалежных кандыдатаў, крытычна настроеных у адносiнах да рэжыму;

Паколькi Аляксандар Лукашэнка i ягоны рэжым не прынялi да ўвагi рэкамэндацыi Арганiзацыi па Бясьпецы i Супрацоўнiцтву ў Эўропе (АБСЭ) i не прывялi выбарчы кодэкс рэспублiкi ў адпаведнасьць са стандартамi АБСЭ;

Паколькi ў Гародні, падначаленыя рэжыму праваахоўныя органы выклiкалi выбарнiкаў для ўдзелу ў нелегiтымных парлямэнцкiх выбарах;

Паколькi сапраўды свабодныя i справядлiвыя выбары апошнi раз мелi мейсца ў краiне ў 1995г., калi быў абраны Вярхоўны Савет 13-га склiканьня, канстытуцыйныя паўнамоцтвы якога, былi зьнiшчаныя аўтарытарным урадам Аляксандра Лукашэнкi; а таксама

Паколькi 11 кастрычнiка рэжым Лукашэнкi замарозiў банкаўскiя рахункi i канфiскаваў абсталяваньне незалежнай выдавецкай фiрмы "Мэджык", дзе друкавалася большасьць незалежных менскiх газэтаў,

Сэнат (а таксама Палата прадстаўнiкоў) пастанаўлюець:

**ЧАСТКА 1. ЗАЯВА КАНГРЭСУ ПА ПАРЛЯМЭНЦКIМ ВЫБАРАМ НА БЕЛАРУСI**

Гэтым Кангрэс

1. заяўляе, што

А) пэрыяд, якi папярэднiчаў выбарам 15 кастрычнiка 2000г. на Беларусi, быў адзначаны шматлiкiмi парушэньнямi правоў чалавека i атмасфэрай страху, адказнасьць за якiя кладзецца на рэжым Аляксандра Лукашэнкi;

Б) выбары не засноўвалiся на дэмакратычным выбарчым кодэксе;

В) рэжым Лукашэнкi наўмысна адмовiў кандыдатам ад дэмакратычнае апазыцыi ў допуску да дзяржаўных СМI;

Г) выбары праходзiлi ў орган, якi ня мае сапраўднае канстытуцыйнае моцы нi дэмакратычнае легiтымнасьцi;

1. заяўляе аб сваёй падтрымцы дэмакратычнае апазыцыi Беларусi i яе высiлкам па байкоце недэмакратычных парлямэнцкiх выбараў, а таксама спадзяецца на тое, што ў хуткай будучынi грамадзяне Беларусi стануць грамадзянамi сапраўды свабоднай i дэмакратычнай краiны;

2. пацьвярджае сваё прызнаньне Вярхоўнага Савета 13-га склiканьня, як адзiнага дэмакратычна i канстытуцыйна легiтымнага заканадаўчага органа Беларусi; а таксама

3. мяркуе, што Вярхоўны Савет 13-га склiканьня, як адзiны законны парлямэнт Беларусi, павiнен па-ранейшаму прадстаўляць сваю краiну пры Парлямэнцкай Асамблеi Арганiзацыi па Бясьпецы й Супрацоўнiцтве ў Эўропе;

**ЧАСТКА 2. ЗАЯВА КАНГРЭСУ ПА ЗЬНIКНЕНЬНЯХ I ПАЛIТВЯЗЬНЯХ**

На думку Кангрэса Прэзыдэнт Злучаных Штатаў павiнен запатрабаваць ад Аляксандра Лукашэнкi i ягонага рэжыму:

1. забясьпечыць поўную справаздачнасьць аб фактах зьнiкненьня грамадзянаў РБ, уключна бязь вестак зьнiклых Вiктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Юрыя Захаранкi i Зьмiцера Завадзкага;

2. вызвалiць Уладзiмера Кудзiнава, Андрэя Клiмава i iншых палiтзьняволеных Беларусi

**ЧАСТКА 3. ПЕРААДРАСОЎКА ТЭКСТУ РЭЗАЛЮЦЫI**

Сакратар Сэната накiруе копiю тэкста рэзалюцыi на разгляд Прэзыдэнта.

# Асамблея NATO не прызнала «палату»

У Берлiне завяршылася восеньская сесiя Парламенцкай асамблеi NATO, якая стала першай адчувальнай поўхай кiруючаму рэжыму пасля фармiравання палаты прадстаўнiкоў.

Дэпутаты Паўночнаатлантычнага альянса пажадалi бачыць на сесii дэлегацыю не «палаты», а разагнанага чатыры гады таму Вярхоўнага Савета XIII склiкання ў складзе Мечыслава Грыба i Анатоля Лябедзькi.

Напачатку польскiя парламентарыi iнiцыявалi разгляд «беларускага пытання» камiтэтам па грамадскiх справах. Свае праўкi ў адмысловую рэзалюцыю ўнеслi дэлегацыi ЗША i Германii, а ў апошнi дзень сесii названы дакумент аднагалосна прыняты Парламенцкай асамблеяй NATO. Паводле дакумента, выбары ў палату прадстаўнiкоў не адпавядаюць дэмакратычным нормам, прынцыпам i стандартам. Была ўхваленая таксама тактыка байкоту «выбарчага фарсу», якую абрала апазiцыя. Але, бадай, галоўны вынiк сесii для Беларусi – апазiцыя заручылася падтрымкай парламента Паўночнаатлантычнага альянса, у тым лiку i на час прэзiдэнцкiх выбараў 2001 года.

У наступным годзе, вiдаць, ужо пасля вясновай сесii ПА NATO ў Вiльнi, Менск наведае парламенцкая дэлегацыя Паўночнаатлантычнага альянса, каб правесцi манiторынг унутрыпалiтычнай сiтуацыi.

++++++++++++++++++++++++++++++++++++

# А хто там ідзе?

Выйшлі мы ўсе з народу, у тым ліку і дзяржаўныя чыноўнікі. Сялянскі сын атрымлівае ў горадзе кватэру, мяняе свой побыт, але спосаб мысленьня памяняць цяжэй, чымсьці туалет за хляўком на сучасны ўнітаз, і ў чалавека як і раней няма жаданьня ўзьняцца крыху вышэй у культуры побыту, у культуры паводзінаў, у культуры адносін між людзьмі… У культуры палітыкі. Няма жаданьня што-небудзь зьмяніць у сваім жыцьці. Няма жаданьня праявіць ініцыятыву! Няма жаданьня проста думаць…

"А навошта? Мне і так добра!"

З тых людзей, якім "і так добра", атрымоўваюцца найлепшыя халуі.

Вёска больш за іншых любіць і абагаўляе Лукашэнку. Галасуе за яго з адной мэтай: каб ён захаваў калгасы і задушыў багатых.

Лукашэнка – прэзідэнт жабракоў. Яго электарат – гэта самыя бедныя людзі, і сёньня яны кіруюць багатымі і людзьмі сярэдняга дастатку. А ва ўсім цывілізаваным сьвеце – наадварот, таму што там, дзе кіруюць уласьнікі, там улада законаў, а дзе да ўлады дарваліся жабракі, там "закон – тайга, мядзьведзь – гаспадар". Халуйства – філасофія жабракоў, таму што жабракі – самыя бяспраўныя людзі, якія залежаць ад іншых.

З дапамогай выбараў і рэферэндумаў сёньня ў нас улада належыць тым, хто жыве па прынцыпе, які ўжо стаў візытоўкай загнанага беларуса: "Толькі б не было вайны!"

Гнаявыя чарвякі таксама жывуць без вайны. Стагодьдзямі. То можа ад іх мы запазычылі такую ўбогую форму шчасьця?

Я добра ўсьведамляю тое, што кажу: я сам селянін, больш за іншых разумею, якое бязьлітаснае кола гісторыі пракацілася па нашых людзях, таму хачу для іх лепшай долі.

Памяць галоднага дзіцяці – моцная памяць.

Я помню, я бачыў пасьля вайны на марозным лістападаўскім калгасным полі, як старшыня калгаса верхам на кані дагнаў групку жанчынаў, распранаў іх і біў, вытрэсваючы з рэйтузаў і кішэняў крадзеныя бульбіны, якія бабы несьлі дахаты сваім апухлым ад голаду дзецям… Як вы думаеце, колькі мерзлых бульбінаў можна схаваць у кішэні? Потым старшыня, пракляты жанчынамі, ад сораму і ўчыненай подласьці ў лютасьці ўдарыў каня – кулаком па храпе, крычаў, плакаў і пляваўся, мацюгаючыся самымі страшэннымі лаянкамі…

Ёсьць улада Бога. Улада голаду, страху. Улада жанчыны. Моцнага пачуцьця. Граху. Ёсьць улада гарэлкі альбо наркотыка. Але самая ап'яняючая, самая салодкая, самая-самая, асалода з асалодаў – гэта ўлада чалавека над іншымі людзьмі… Улада правадыра.

У Беларусі ўзарвалася міна, якая была закладзена яшчэ генералісімусам Іосіфам Джугашвілі-Сталіным. Ён першы даўмеўся сабраць пад свае сьцягі ўсіх халуёў няшчаснай краіны і падарыць ім уладу, як торт на дзень нараджэньня… Чым прывабная служба ў гаспадара? Халуй атрымлівае хоць і маленькую, але таксама ўладу!

І кожны, хто займаў царскі трон пасьля Сталіна, атрымоўваў як бы ў спадчыну казачнае багацьце – мільёны адданых правадыру людзей.

Дзесяцігодьдзямі савецкімі людзьмі кіруе не розум, дадзены Богам, а страх за жыцьцё, за пасаду, за кавалак хлеба. Таму я і не выключаю, што і ў 21-м стагодзьдзі на кіруючых пасадах у Беларусі замест людзей з дзяржаўным мысленьнем па-ранейшаму будуць васалы з гібкімі пазваночнікамі.

Гэты страх пазбавіў іх адказнасьці за ўласную будучыню і будучыню сваіх дзяцей – таму ў халуёў няма пачуцьця Радзімы. Нават у звяроў і птушак ёсьць Радзіма, а ў халуёў – няма!..

Мы як нацыя здрадзілі нашым вялікім асьветнікам і пакутнікам – Францыску Скарыне і Кастусю Каліноўскаму, здрадзілі ахвярам сталінскага генацыду і многім іншым, у якіх была адзіная і апошняя мара – свабодная Беларусь.

Дваццаць першае стагодьдзе – не выключана – стагодьдзе зьнікненьня беларусаў. Нацыя, ня здольная на пратэст, павінна загінуць, растварыцца ў іншых народах – такі закон Космасу. Чачня выжыве, у чачэнцаў працэнт халуёў намнога меней за наш, а Беларусь загіне, задушаная ў абдымках расейскіх братоў…

Я нарадзіўся на Палесьсі, ў вёсцы Валадкі, блізка Хойнікаў, непадалёк ад Чарнобыля. Цудоўная краіна майго дзяцінства і родныя магілы засыпаныя сёньня попелам дзесяткаў атамных бомбаў, падобных на тую, што ўзарвалася над Хірасімай. Забароненая зона. Людзі тут не жывуць, у зоне засталіся толькі дзікія зьвяры. Час ад часу жывёлаў выбарачна адстрэльваюць, каб узяць мяса на аналіз і яшчэ раз пераканацца, што нармальнае чалавечае жыцьцё тут немагчымае ў бліжэйшыя дзьве тысячы гадоў…

Пустыня Сахара ў цэнтры Еўропы.

Дзьве тысячы гадоў!

Трэба пражыць яшчэ адно жыцьцё з дня нараджэньня Ісуса Хрыста…

Нашы дзеці, якія паміраюць, - нямы дакор усім халуям, што маюць дачыненьне да чарнобыльскай трагедыі і да трагедыяў, якія нас чакаюць наперадзе, калі мы не паразумнеем своечасова…

**Віктар Дашук,** кінарэжысёр, народны артыст Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі.

("Народная воля", друкуецца са скарачэньнямі).

# Міжнародна ліга правоў чалавека занепакоеная ўзмацненьнем ціску на свабодную прэсу Беларусі

*Выканаўчы дырэктар Міжнароднай Лігі правоў чалавека Кэтрын Фіцпатрык накіравала 9 лістапада ліст Аляксандру Лукашэнку. Копіі пасланьня пайшлі генэральнаму пракурору Беларусі Бажэлку і новаму амбасадару ЗША ў Беларусі Майклу Козаку.*

Паважаны сп. Лукашэнка,

Міжнародная Ліга правоў чалавека, міжнародная няўрадавая праваабарончая арганізацыя з кансультацыйным статусам пры ECOSOC ААН, выказвае сур'ёзную заклапочанасьць з нагоды працяглага наступу на свабодную прэсу Беларусі ў сьвятле нядаўна вынесенага папярэджаньня незалежнай газэце "Наша Слова" і напада на офіс іншай незалежай газэты "Шаг". Гэтыя, а таксама іншыя факты, якія мелі месца ў недалёкім мінулым, напрыклад, перарэгістрацыя СМІ, канфіскацыя накладаў некалькіх незалежных газэтаў і рабаваньне рэдакцыяў відавочна накіраваныя супраць сэктара НДА і незалежнай прэсы Беларусі, якія, у сваю чаргу, уцягнутыя ў палітычнае жыцьцё краіны, займаюцца адсочваньнем і агучваньнем парушэньняў правоў чалавека, абаронай ахвяраў рапрэсыяў і папулярызацыяй беларускае мовы і культуры, чым, напрыклад, займалася "Наша Слова".

21 жніўня 2000 г. Міхаіл Падгайны, старшыня Дзяржкамдруку паінфармаваў усе незалежныя выданьні рэспублікі аб тым, што згодна з Дэкрэтам прэзыдэнта №11 СМІ абавязаныя ў абавязковым парадку прайсьці да 1 студзеня 2001 года працэдуру рэгістрацыі ў мясцовых органах улады ў якасьці камэрцыйных альбо некамэрцыйных арганізацыяў. Па Словах Міхаіла Пастухова, дырэктара Цэнтра прававой дапамогі СМІ, зрабіць гэта ва ўсталяваныя тэрміны практычна немагчыма, улічваючы той факт, што ў сапраўдны момант у краіне існуе 20 тысячаў кампаніяў, усе зь якіх павінныя прайсьці перарэгістрацыю, тады як менскі гарвыканкам спыніў прымаць заяўкі яшчэ 1 кастрычніка гэтага года.

13 верасьня 2000 г. праваахоўнымі органамі краны быў канфіскаваны наклад спецвыпуска газэты "Рабочы" (112 тысячаў асобнікаў). Рэдактар газэты Віктар Івашкевіч і дырэктар друкарні "Мэджык" Будзько былі адразу затрыманыя і дастаўленыя ў Першамайскі РАУС. Пазьней абодва прадсталі перад судом па абвінавачваньню ў парушэньні артыкула 167.3 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэньнях (парушэньне закона аб выбарах). Івашкевіча абвінавацілі ў тым, што ён заклікаў насельніцтва байкатаваць парлямэнцкія выбары, у той час як Будзько – у тыражаваньні газэтаў, якія ўтрымлівалі такія заклікі. Ліга настойвае на тым, што заклікі да байкота зьяўляюцца цалкам законнай практыкай, згодна з Канстытуцыяй РБ і міжнароднымі нормамі па абароне свабоды слова і прэсы.

1 лістапада 2000 г. Дзяржкамдрук вынес папярэджаньне газэце "Наша Слова" за публікацыю матэрыялаў ад імя незарэгістраванай арганізацыі. У лісьце камітэта, які быў накіраваны ў рэдакцыю 25 кастрычніка, кажацца аб надрукаваньні газэтай 6 верасьня зварота гарадзенскага Саюза вэрэранаў вайны і працы да ўрада Лукашэнкі і ўсім людзям добрай волі. Камітэт абвінаваціў газэту ў парушэньні артыкула 5 (ч. 1, пар. 9) беларускага Закона аб друку, бо афіцыйна арганізацыі пад такой назвай не існуе. Таварыства беларускае мовы – заснавальнік газэты – заяўляе аб адваротным. ТБМ сьцьвярджае, што гэтая арганізацыя пасьпяхова прайшла рэгістрацыю, а папярэджаньне зьяўляецца яшчэ адной мерай, накіраванай супраць тых, хто займаецца распаўсюджваньнем беларускай культуры ў масы. Такога кшталту палітыка тлумачыцца тым, што на Беларусі такія арганізацыі традыцыйна адносяцца да апазыцыйных, і, адпаведна, тымі, хто прадстаўляе пэўную пагрозу для дзяржаўнае ўлады.

5 лістапада 2000 г. быў зьдзейсьнены напад на штабкватэру іншай незалежнай газэты "Шаг". У чатыры гадзіны раніцы пяцёра невядомых уварваліся ў офіс, жорстка зьбілі і зьвязалі ахоўніка. Рабаўнікі забралі з сабой 5 кампутараў, 2 прынтара і 2 сканэра. Па словах выканаўчага дырэктара выданьня Вайцяхоўскага, рабаваньне цалкам можа аказацца палітычнай замовай, асабліва калі ўлічыць незалежніцкі дух і рост папулярнай газэты. Такое тлумачэньне здаецца цалкам праўдзівым: а) скрадзеныя кампутары ўтрымлівалі поўную базу дадзеных выданьня і, такім чынам, паралізавалі яго далейшую дзейнасьць; б) рабаўнікі захапілі з сабой прыладу, коштам 25 даляраў, што злучае кампутарныя сеткі, праігнараваўшы картрыджы для прынтара, агульным коштам у некалькі сотняў даляраў; в) у гэтым самым будынку зьмяшчаюцца некалькі нашмат больш фішэнебельных офісаў, а за суседнімі дзьвярыма наагул разьмясьцілася нейкая гандлёвая фірма; г) нягледзячы на тое, што ахоўніку завязалі вочы, ён здолеў убачыць, што на адным з рабаўнікоў былі апранутыя амэрыканскія нагавіцы і боты.

Ліга сур'ёзна занепакоеная ўзмацненьнем ціску на свабодную прэсу Беларусі. Асабліва насьцярожвае той факт, што напады працягваюцца, нягледзячы на шматлікія абяцаньні ўраду РБ выконваць патрабаваньні АБСЭ па правядзеньню дэмакратычных выбараў. Мы адзначаем, што доступ апазыцыі да дзяржаўных СМІ, і тым больш зьняцьцё санкцыяў і спыненьне перасьледу ў адносінах да незалежных СМІ, жыцьцёва неабходныя для разьвіцьця дэмакратыі на Беларусі. Мы заклікаем вас забясьпечыць тэрміновае спыненьне гэтых празьмерных парушэньняў свабоды прэсы і сходаў. Дзякуем за ўвагу і чакаем адказу.

Шчыра вашая,
**Кэтрын Фітцпатрык,** выканаўчы дырэктар.
9 лістапада, 2000 г.

Нам надзвычай прыемна ведаць, што нашу газэту чытаюць людзі, якія ўмеюць думаць...

# Беларускі Каштуніца — сякера пад лаўкай

Нядаўна адбылася Соймавая канфэрэнцыя БНФ. Абмяркоўвалі сцэнар будучай прэзыдэнцкай кампаніі. Вырашылі, што кандыдат ад апазыцыі мусіць быць адзін, і назвалі крытэры, якім ён павінен адпавядаць.

Беларускі Каштуніца, паводле франтаўскіх палітыкаў, мусіць быць незалежнікам, дэмакратам, гатовым да рэформаў, мусіць разумець ролю нацыянальнае культуры і свабодна гаварыць па-беларуску. А яшчэ — трымаць слова, мець кіраўніцкі досьвед і досьвед працы ў камандзе, быць неканфліктным, але цьвёрдым у пазыцыі, ня мець аўтарытарных рысаў. Гэта ўсё, так бы мовіць, агульныя пажаданьні, зь якімі ня стаў бы спрачацца ніхто. Хіба што сацыял-дэмакрат Статкевіч тут адпадае, бо і рысы аўтарытарныя ў яго ёсьць, і слова не стрымаў — пайшоў на мінулыя выбары, чым разбурыў свой удзел у камандзе — апазыцыйнай групе палітыкаў новай хвалі, і канфліктны — варта паказаць у тэлевізары, як крычаў на мітынгу пра «цыганскага в...ка». Прынамсі, неўраўнаважаны.

А вось наступны блёк — электаральныя характарыстыкі — непасрэдна ўступае ў канфлікт з рэальнасьцю. Інакш кажучы, калі агульным характарыстыкам больш-менш адпавядаюць усе 10-20 апазыцыйных лідэраў, дык у электаральнай частцы пачынаецца суцэльны «адсеў».

Напрыклад, кандыдат у прэзыдэнты мусіць мець мінімальны адмоўны рэйтынг. Штука цяжка вызначальная, калі ўвогуле рэйтынг апазыцыйных палітыкаў трымаецца на ўзроўні статыстычнай памылкі. А нават і тыя тры-пяць палітыкаў, што набіраюць у апытаньнях ад аднаго да трох працэнтаў, маюць пераважна адмоўны рэйтынг. Што Пазьняк, што Шушкевіч, што хто-небудзь іншы. Вызначыць жа адмоўнасьць ці станоўчасьць рэйтынгу палітыкаў, якіх увогуле ніхто ня ведае, нерэальна.

Далей: адсутнасьць падставаў для аргумэнтаванага кампрамэтаваньня. Верагодна, такой характарыстыкай валодае толькі той, хто не займаецца актыўнай публічнай і кулюарнай палітыкай, груба кажучы, ня мажацца, або зусім ня робіць памылак. Дастаткова прыгадаць, што Анатоль Лябедзька быў адным з архітэктараў-стваральнікаў цяперашняга дыктатара, альбо паказаць кадры, як Вінцук Вячорка паліць саюзную дамову, каб гэта стала падставай для аргумэнтаванага кампрамэтаваньня і недаверу да кандыдатаў. Каб пасьля гэтага галасаваць за іх, трэба ў першым выпадку моцна любіць Лябедзьку, у другім — мець трывалую нацыянальную сьвядомасьць. А ні першым, ні другім беларускі народ сёньня не вызначаецца.

Далей — адносныя характарыстыкі — прэзэнтабэльны выгляд і камунікабэльнасьць. Яны адносныя, бо, па-першае, вобраз караля робіць ягонае атачэньне, а па-другое, разам з ранейшымі крытэрамі гэтыя таксама не выключаюць удзелу ў выбарах старых і новых лукашэнак. Зрэшты, адзін прэтэндэнт тут адсяваецца — гэта барадаты матрос Шчукін. Напэўна, яго мелі на ўвазе іміджмэйкеры Фронту, калі думалі пра непрэзэнтабэльны выгляд.

Далей. Здольнасьць уплываць на дзяржаўны апарат. Тут могуць адпачываць усе, пра каго часта пішуць апазыцыйныя газэты і хто адназначна выказваецца супраць Лукашэнкі. На апарат здольны ўплываць той, хто выйшаў з намэнклятуры — Лявонаў або Домаш. Але першы зь іх не гаворыць па-беларуску, а другі — калгасьнік. У тым сэнсе, што, адмаўляючы партработніку Лукашэнку, з чаго б гэта галасаваць за партработніка Домаша? Калі ўжо перавыбіраць, дык абавязкова — кантрасна, чалавека зь іншымі характарыстыкамі. Каб не калгасьнік, не начальнік і каб умеў па-інглішу, напрыклад. Ёсьць яшчэ Міхаіл Чыгір — «былінны багатыр», але ён свой «намэнклятурны рэсурс» страціў на апазыцыйных прэзыдэнцкіх выбарах.

І потым, хто прыдумаў, што новага прэзыдэнта мусіць падтрымаць намэнклятура? Яна, бязвольная і безініцыятыўная, будзе галасаваць, «як усе людзі».

Наступны крытэр — гэта аўтарытэт сярод розных, ня толькі культурніцкіх, элітаў. Добрае пажаданьне, якое фактычна дублюе патрабаваньне ня мець адмоўнага рэйтынгу.

Нарэшце, прымальнасьць для сталіцы і рэгіёнаў. Гэты крытэр напісаны з тайнай думкай якраз пра Домаша, бо якраз Домашу ён з усяго сьпісу мусіць спадабацца найбольш (хоць наўрад ці ў Гомелі з большай ахвотай будуць галасаваць за заходніка-гарадзенца, чым за менчука - закон псыхалёгіі). І тут нам раптам адкрываецца сапраўдны сэнс складаньня вышэйзгаданых характарыстыкаў. Апазыцыйныя лідэры ўскосна разважаюць над тым, якімі яны самі мусілі б быць, каб патрапіць у прэзыдэнцкае крэсла. У сьпісе крытэраў міжвольна адбілася і слабасьць, і боязь апазыцыі, яе імкненьне падбадзёрыць сябе і апраўдацца перад сабою. Што да рэальнага кандыдацтва, дык ім тут і ня пахне. Гэта як набыўшы штопар вы б заселі вывучаць інструкцыю да яго. Не таму, што ня ведаеце, як адкаркаваць бутэльку, а таму, што ўсяляк адцягваеце гэты момант. Прычына — у негатовасьці апазыцыі да таго, каб узяць уладу ў краіне, у глыбокай унутранай звычцы да гэтай сваёй апазыцыйнасьці, якую цяжка, а, па вялікім рахунку, і ня хочацца пераадольваць. Гэта як кінуць курыць. І трэба было б, але ж пакуль нішто не прыпёрла. Дык і няма навошта.

Беларускі народ, калі б яму далі прагаласаваць свабодна, наўрад ці будзе кіравацца нейкім сьпісам крытэраў. Як ні проста гэта гучыць, але выбіраць ён будзе душою. Пры гэтым ва ўяўленьні сваім ён будзе падстаўляць прапанаваныя яму вобразы кандыдатаў — да Лукашэнкі — і параўноўваць. Гэта і будзе галоўны крытэры выбару. Ці выйграе апанэнт у такім параўнаньні, ці за гэткага хочацца прагаласаваць болей, чым за цяперашняга. Наўрад ці ў такім «душэўным» параўнаньні выйграе нехта з вышэйназваных прэтэндэнтаў. І спадар Грушавы побач з Лукашэнкам будзе выглядаць кандыдатам няясным, непразрыстым, незразумелым. Кажуць, што яго хацела б Нямеччына. Зрэшты, і пра Лукашэнку так кажуць. Толькі ж гэтым разам схаваць свае інтрыгі немцам будзе нашмат цяжэй, бо ў недэмакратычнай краіне такія «штукі» навідавоку, калі яны робяцца ў апазыцыйным лягеры.

Што да франтаўскага сьпісу, дык ён паказвае, што сярод дзясяткі-дваццаткі цяперашніх апазыцыйных лідэраў беларускага Каштуніцы няма. Каштуніца — у другім эшалёне, сярод тых, чые кандыдатуры шырака не абмяркоўваюцца. Самае галоўнае, што ён ёсьць і, дарэчы, найлепшым чынам адпавядае ўсім згаданым крытэрам. Пытаньне — ці здолее аб'яднаная апазыцыя яго разгледзець і вылучыць.

**Алесь Кебік** -"Н. Ніва"

# Апошні Тыран Эўропы

*The New York Times зьмясьціў рэдакцыйны артыкул пад загалоўкам **"Апошні тыран Эўропы"**. Пасьля нядаўняга адхіленьня ад улады прэзыдэнта Югаславіі Мілошавіча, шэраг заходніх палітыкаў і выданьняў гавораць, што зараз чарга беларускага дыктатара.*

"Зыход Слабадана Мілошавіча пакінуў у Эўропе толькі аднаго дыктатара – Аляксандра Лукашэнку," – піша New York Times. Газэта нагадвае, што ў 94-м годзе ва ўзросьце 39-ці гадоў Лукашэнка, робячы выгляд змагара з карупцыяй, быў легітымна абраны прэзыдэнтам Беларусі. "Аднак пазьней гэты яўны прыхільнік Гітлера заявіў, што самі беларусы хочуць, каб ён вярнуў ім сталінскі лад кіраваньня. Пры падтрымцы Расеі Лукашэнка поўнасьцю захапіў ўладу ў краіне. Гэта было асабліва бачна падчас апошніх парляманцкіх выбараў.

Лукашэнка нэўтралізаваў апазыцыю ў значна большай ступені, чым Мілошавіч у Сэрбіі". New York Times нагадвае зьнікненьні апазыцыйных палітыкаў, затрыманьні прыхільнікаў байкоту выбараў, зьбіваньні і гэтак далей. Калі ў Югаславіі была дазволеная дзейнасьць незалежнага вяшчаньня, у Беларусі апазыцыя мела магчымасьць скарыстаць толькі некалькі незалежных газэтаў.

Паводле New York Times, Лукашэнка ўтрымоўваецца пры ўладзе дзякуючы ягоным адносінам з Масквою. Ён дазволіў Расеі разьмясьціць на сваёй тэрыторыі радарныя ўстаноўкі недалёка ад межаў НАТО і загарантаваў бясьпеку трубаправодам для транзыту газу на Захад. Калі Расея і Беларусь абьядноюцца, Расея поўнасьцю адновіць сваю вайсковую прысутнасьць у Беларусі, і гэткім чынам зьдзейсьніць запаветную мару некаторых расейцаў аб рэканструкцыі Савецкага Саюзу.

Уладзімір Пуцін павіншаваў Лукашэнку са "свабоднымі і справядлівымі" выбарамі. "Такая падтрымка абараняе Лукашэнку ад зьнешняга ціску, легітымізуе ягоную ўладу ўнутры краіны і падпірае эканоміку пастаўкамі энэгранозьбітаў ды іншай дапамогай. Што цікава, – піша амэрыканская газэта, – паводле беларускай апазыцыі, прыхільна да Лукашэнкі ставіцца нават Нямеччына. Нямецкія дыпляматы ў Беларусі падахвочваюць капіталаўкладваньні ў беларускую эканоміку і супрацоўніцтва з цяперашнім рэжымам. Паводле ФРГ, да часу, пакуль Лукашэнку падтрымоўвае Масква, Бэрлін таксама не павінен адварочвацца ад яго".

Нэзадавальненьне насельніцтва Беларусі значнае, але не нагэтульки вялікае, каб перакласьціся на непрыйманьне палітычнай улады. На думку New York Times, выглядае, што ў бліжэйшай будучыні адхіленьне Лукашэнкі ад улады мала праўдападобнае. Лукашэнка ўмела скарыстоўвае настроі старэйшага пакаленьня, якое сумуе па абьяднаньні з Расеяй. "Аднак, зьмены ў Беларусі магчымыя, – піша амэрыканская газэта. – Дзевяць галоўных апазыцыйных партыяў папярэдне дамовіліся аб супрацоўніцтве. І гэта адзіны шанец, каб перамагчы Лукашэнку на выбарах у наступным годзе, – піша New York Times.

Паводле "Радыё Свабода"

# Выбары наперадзе

### У Беларусі будзе свой сцэнар

Аляксандар Лукашэнка мае рацыю, калі кажа, што тут Каштуніцы ня будзе. Але Лукашэнка прайграе прэзыдэнцкія выбары ў наступным годзе. Прычына - народ стаміўся, што засьведчылі й апошнія выбары ў палату. Ад занадта яскравых прэзыдэнтаў стамляюцца ня больш як праз 7 год іхнага панаваньня. Міхаіл Гарбачоў кіраваў зь вясны 1985 году да восені 1991-га, Барыс Ельцын - ад зімы 1992 году да зімы 1999-га. Абодва пачалі як усенародныя куміры, а скончылі як бездапаможныя балбатуны. Абодва сышлі нечакана паводле тактыкі, але чакана паводле стратэгіі. Беларусы ня вынятак, але маюць свае асаблівасьці. Да таго ж Лукашэнку, як і Кебічу, у перадвыбарчай барацьбе будуць дапамагаць тыя ж Мясьніковіч і Замяталін з тымі самымі мэтадамі, тэхналёгіямі ды маральна нячыстымі мас-мэдыямі. Па-другое, як і Кебіч, ён шмат абяцаў, але народ не даруе шматгадовых пустых абяцанак на тле інфляцыі. Па-трэцяе, як і Кебіча, Шушкевіча ды Мілошавіча, яго зь лёгкасьцю сьпіша ў архіў Крэмль.

### Што мае зрабіць новы прэзыдэнт?

Што мае зрабіць новы прэзыдэнт? Падпісаць усяго дзьве паперы: дэкрэт пра аднаўленьне дзеяньня Канстытуцыі 1994 г. ды ўказ пра прызначэньне выбараў у Вярхоўны Савет 14-га скліканьня.

Такая праграма здольная аб'яднаць усіх беларускіх апазыцыянэраў. Трэба ўжо зараз, да вылучэньня кандыдатаў, напісаць простыя ды агульназразумелыя пункты гэтае праграмы, сутнасьць якое - "змагаемся разам не за пасаду, а за парадак ды ўсе пасады". Трэба, каб гэта быў прэтэндэнт, не скампрамэтаваны супрацоўніцтвам зь цяперашнім рэжымам. Каб ён быў чалавекам беларускае культуры. Каб на кастрычніцкіх выбарах ён выступаў за байкот. Каб меў характэрнае прозьвішча.

Галоўнае - ня спаць у шапку. А раптам датэрміновыя выбары?



ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**Моцна просім Вас не забывацца пераслаць АХВЯРУ на Выдавецкі Фонд нашае газэты!..**

## БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦЬ СЁНЬНЯ

І зрабіў тады Бог людзей рознамоўнымі, каб упарадкаваць іх жыцьцё, узбагаціць дух, навучыць жыць разам у згодзе, але кожны народ самастойна і незалежна. Са старажытнасці і да нашых часоў асноўнае гістарычнае прызначэнне дзяржавы гэта рэалізацыя інтарэсаў пэўнай нацыі або нацыянальнасці. Калі гэта прызначэнне выконваецца у малой ступені, то маем прыклады дзяржаў марыянетак, калоній або паўкалоній. Калі гэта прызначэнне гіпэртрафуецца, то зьяўляюцца дзяржавы імперыі, якія за кошт жыццёвых інтарэсаў залежных нацыяў задавальняюць патрэбы дамінантнай нацыі.

Кожная нацыя – літоўцы, палякі, украінцы, французы і г. д. – мае адпаведнае дзяржаўнае прадстаўніцтва, якое ўвасабляе гістарычную пераемнасць развіцьця нацыі, яе мову, культуру. У беларусаў такой дзяржаўнай падтрымкі няма. Дзяржава знаходзіцца ў апазіцыі да беларусаў. І па форме і па зместу яна выказвае інтарэсы фінансавай алігархіі і ваенна-прамысловага комплексу, зацікаўленых у русіфікацыі беларусаў, іх палітычнай і эканамічнай залежнасці ад Расіі. У Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь ад 24.11.96 г. не ўжываюцца паняцьці беларускі народ, беларус, або беларускі. Але і гэта Канстытуцыя парушаецца як па артыкулах так і вогуле. Гістарычнае прызначэнне беларускай дзяржавы гэта захаванне і развіцьцё беларускага народу, яго эканомікі, адукацыі, культуры, беларускай мовы. Гэта не азначае, што беларус ня ведае і не карыстаецца іншымі мовамі і культурамі. Але гэта азначае, што дзяржаўныя ўлады павінны несьці адказнасьць за стварэнне пэўнага беларускамоўнага асяродзя, дзяржаўным асобам належыць зьвяртацца да насельніцтва на беларускай мове, а таксама весьці на ёй дакументацыю і справаздачы. На дзяржаўным беларускім радыё па-беларуску павінны размаўляць не толькі дыктары ды наменклатурныя радыёстукачы, якія апошнім часам (другая палова 1999 г.) лічаць асаблівым шыкам на беларускай мове зневажаць прадстаўнікоў БНФ і іх прыхільнікаў, заклікаюць паставіць гэтых "апазіцыянераў" да сьцяны або саслаць іх у родную Сібір і такім чынам забяспечыць грамадзянскую згоду і непахісныя ўстоі правячых колаў. Напрыклад, такі ўзровень ідэалагічнага забяспячэння стала дэманструе перадача "Размова па сутнасці", вядучая Чайка. Дарэчы гэтая асоба заклікае да прыняцця праваслаўя ў якасці дзяржаўнай ідэалогіі Беларусі (Расіі). Апошняе, разам з адаптаваным беларусамі расійскім матам, на думку архітэктараў дзяржаўнага будаўніцтва і сацыябіпраграмістаў, будзе спрыяць стварэнню новай суполь насці, новай нацыі, якая а ні руская, а ні беларуская, заўсёды пакорная і задаволеная, усім удзячная, праграмуемая і прагназуемая ва ўсім, без праблемаў і недарэчных пытанняў. Трэба прызнаць на дзяржаўным і заканадаўчым узроўні палітыку русіфікацыі насельніцтва Беларусі злачыннай, накіраванай на ліквідацыю беларускага народу і заменай яго замбіраваным русіфікаваным насельніцтвам, не маючы пачуцьця нацыянальнай годнасці і згодным з паступовай стратай беларускай дзяржаўнасці.

Беларус мае права слухаць сваё дзяржаўнае радыё, тэлебаанне на беларускай мове, атрымліваць адукацыю ад пачатковай да найвышэйшай на беларускай мове, мець беларускамоўнае атачэньне. Беларус мае права і гонар лічыць сябе беларусам, прымаць удзел у будаўніцтве незалежнай Беларусі. Мы – не рабы, рабы – не мы. Сучаснаму чалавеку не патрэбны ўлады, якія існуюць дзеля ўласнага задавальнення, нездольныя выконваць сацыяльныя функцыі, ускладзеныя на іх грамадствам і законам. Беларус мае права быць беларусам. Ён мае права выбару, але ці будзе выбар у беларусаў у выбарах, якія павінны адбыцца, ва ўмовах якія склаліся на Беларусі сёння? Ці будзе заўтра ў беларусаў?

***Самко Галіна.*** (Наша Слова)

## Сям'я Захаранкі папрасіла прытулку

Жонка экс-міністра ўнутраных справаў Беларусі Вольга Захаранка разам з дочкамі Аленай і Юляй ужо больш за чатыры месяцы знаходзяцца ў Германіі. Яны паехалі туды на запрашэнне аднаой дабрачыннай арганізацыі, фармальна - на адпачынак і каб распавесці нямецкай грамадскасці пра падзеі ў Беларусі.

Пра тое, што прыйдзецца застацца ў Нямеччыне, спачатку гаворка не ішла. *"Мы настройваліся на тое, што хутка вернемся дадому, але потым прыйшлі звесткі ад сяброў мужа, якія раілі нам не вяртацца. Яны казалі, што ў Беларусі нас будуць пераследваць за тыя выказванні ў бок рэжыму Лукашэнкі, якія мы казалі ў Нямеччыне. Мы больш як месяц вагаліся, і ўсё ж падалі заявы аб прадастаўленні нам палітычнага прытулку. Сапраўды, пакуль гэты рэжым пры ўладзе, нам вяртацца немагчыма"*, - паведаміла "Нашай Свабодзе" Вольга Захаранка.

Жывуць Захаранкі непадалёк ад Мюнстэра, у невялікай трохпакаёўцы ў шматкватэрным доме. Кватэру аплачваюць нямецкія сябры. Яны ж фінансава дапамагаюць тром жанчынам і двухгадоваму хлопчыку -- Захаранкі зьехалі разам з унукам Кірылам.

Палітычны прытулак заўсёды адкрывае перад ўцекачамі шляхі да нармальнага жыцьця.

## *Змаганне за Беларусь*

*Ніва*

Канферэнцыя, арганізаваная 20-21 верасня ў Беластоку Беларускім гістарычным таварыствам, мела на мэце асвятліць працэс змагання за беларускую дзяржаўнасць у ХХ стагоддзі. Як падкрэслівалі гісторыкі з Беларусі, у іх, на Бацькаўшчыне, публічнае разважанне на такую тэму пакуль што немагчымае. Улады, якія прадстаўляюць антынезалежніцкую і постсавецкую плынь беларускай палітыкі, не зацікаўлены ў высвятленні ўсіх працэсаў, якія спадарожнічалі пабудове сучаснай дзяржаўнасці і грамадства. Прапанаваная студэнтам і моладзі гісторыя надалей падтрымлівае савецкую міфалогію, дзе ўсё беларускае называецца нацыяналістычным, буржуазным, калабарацыяніскім, а сапраўднай айчынай беларусаў у ХХ стагоддзі лічыцца толькі Савецкі Саюз.

Слухаючы даклады калег з Мінска, Брэста, Гомеля, Гродна відаць колькі працы ўкладваюць яны, каб з архіваў выцягнуць тыя факты, аб якіх савецкая гістарыяграфія ніколі не згадвала. Праблемай, аднак, застаецца іх абагульненне. Як заўважыў прафесар Эмануіл Іофе з Мінска, большасць вучоных пералічвае нейкія дэталі, некаторыя ўжо добравядомыя, не выцягваючы з іх ніякіх высноў. Сучасная беларуская гістарыяграфія напамінае такім чынам дзіцячую ўкладанку з тысячы элементаў. Гульня заключаецца, аднак, у тым, каб элементы спалучыць з сабой у належным парадку і атрымаць вобраз. Сёння галоўнай праблемай беларускіх гісторыкаў павінна быць менавіта ўпарадкаванне ўжо вядомых фактаў, акрэсленне іх іерархіі і выпрацоўка высноў.

Гісторыя — гэта навука, якая павінна вучыць грамадзян мыслення ў катэгорыях нацыянальных і дзяржаўных інтарэсаў, паказваць, якія палітычныя памылкі прыводзілі да пакут і няволі, але таксама дапамагаць адкрываць шляхі да свабоды і дабрабыту. Пакуль што, аднак, абагульненнем фактаў і іх інтэрпрэтацыяй займаюцца найчасцей гісторыкі савецкай арыентацыі і робяць гэтае паводле старых выпрабаваных узораў. На жаль, малодшае пакаленне не выпрацавала яшчэ сваёй метадалогіі, сваіх тэрмінаў для ахарактарызавання паасобных палітычных ці грамадскіх з'яў. Змагарамі за Беларусь называюцца тады, напрыклад, чэкісты, якія ў час нямецкай акупацыі расстрэльвалі настаўнікаў беларускіх школ, дзеячаў культуры. Іх ахвяры тым часам называюцца калабарацыяністамі. Гэта вынік пануючай дзесяцігоддзямі адукацыйнай сістэмы, якая не дазваляе адарвацца ад старых схемаў. Дарэчы, літаратура таксама надалей вучыць думаць савецкімі катэгорыямі. Толькі нешматлікім інтэлектуалам, напрыклад, Васілю Быкаву, удалося адарвацца ад расійска-савецкай традыцыі бачання свету.

З беластоцкай канферэнцыі варта, аднак, адзначыць дасягненні некалькіх гісторыкаў, якія прадставілі новыя тэзісы наконт дзяржаўнага будаўніцтва ў Беларусі. Андрэй Кіштымаў даказаў, што гаспадарка Беларусі яшчэ да І сусветнай вайны мела ўсе прыкметы, дазваляючыя на самастойнасць. Праблемай, аднак, было тое, што не існавала беларуская грамадская эліта, якая магла б фармуляваць пастулат незалежнасці. Фінансавыя і палітычныя эліты ў Беларусі былі небеларускай нацыянальнай арыентацыі. Таму і патрабаванне дзяржаўнасці і незалежнасці не было ў іх інтарэсе. Станіслаў Рудовіч заявіў нават, што апрача элітаў рускай нацыянальнасці, таксама палякі, як і яўрэі, да І сусветнай вайны расійскую дзяржаўнасць бачылі гарантам іх высокай сацыяльнай пазіцыі і грамадскай стабільнасці. Парушэннем гэтай стабільнасці маглі ў будучыні быць зацікаўлены толькі беларусы. І сапраўды, маладая беларуская інтэлігенцыя адкідала існуючы як палітычны, так і грамадскі парадак, дамагаючыся радыкальных змен.

Хаця першай беларускай незалежнай дзяржаўнасці — БНР — было прысвечана некалькі выступленняў, у якіх паказваліся новыя факты, аднак не было акрэслена ў якой ступені гэтая дзяржаўнасць была рэальна існуючым утварэннем, а наколькі ідэяй, дэманстрацыяй волі беларускай інтэлігенцыі. Таксама нічога новага не ўдалося пачуць наконт станаўлення беларускай савецкай дзяржаўнасці. Перш за ўсё далей невядома, па якіх прычынах бальшавіцкае кіраўніцтва стварала наперамен, раз літоўска-беларускую, раз літоўскую і беларускую рэспублікі. Гэтыя ўтварэнні ўзнікалі або без удзелу беларусаў, або пры іх сімвалічнай прысутнасці. Нішто не прымушала бальшавікоў да гэтых гульняў, як толькі факт існавання Беларускай Народнай Рэспублікі. Але няма пакуль што ніякіх доказаў, што савецкая дзяржаўнасць мела быць альтэрнатывай для БНР.

Цалкам новы метадалагічны падыход да даследавання гісторыі прадэманстраваў малады гісторык з Гродна Сяргей Токць. Хаця гаварыў ён пра свядомасць сялянскага грамадства ў міжваенны перыяд на прыкладзе толькі аднае Бярштанскай гміны Гродзенскага павета, аднак паказаў усе фактары, якія маглі ўплываць на гэты працэс на тэрыторыі ўсяе Заходняй Беларусі. Перш за ўсё актыўнасць вясковай эліты — дзеячаў Таварыства беларускай школы, Беларускай сялянска-работніцкай грамады — накіроўвалася ў напрамку мабілізацыі грамадства да змагання за Беларусь, беларускасць, нацыянальныя інтарэсы. Справы сацыяльнага характару былі на другім плане. Дзейнасць КПЗБ разбурала рух нацыянальнага характару, выклікала рэпрэсіі з боку польскай паліцыі. Дзейнасць камуністаў мела ўсе прыкметы правакацыі. Выдатна спрыяла рэпрэсійнай дзейнасці ўлад. У трыццатыя гады, калі стомленыя рэпрэсіямі палякаў дзеячы ТБШ здаліся, пачаўся рэлігійны ўздым. У тым самым часе пражываючая побач літоўская грамадскасць перажывала пастаянны ўздым нацыянальнай актыўнасці. Слухаючы даклад Токця шмат чаго падобнага можна дашукацца ў гісторыі беларусаў Беласточчыны апошніх дзесяцігоддзяў. Хаця метады ўздзеяння ўлад на беларусаў памяняліся, аднак рэакцыі нашай грамадскасці асталіся амаль такія ж.

Анатоль Вялікі з Мінска вельмі лагічна даказаў, што БССР не была ніякім суб'ектам міжнароднага права. Усе вышэйшыя чыноўнікі Міністэрства замежных спраў рэспублікі назначаліся Сакратарыятам або Палітычным бюро ЦК КПСС. Ніхто ў Мінску не займаў ніякіх палітычных пастоў без блаславлення маскоўскага партыйнага кіраўніцтва. Анатоль Вялікі заўважыў нават, што называць І сакратара Камуністычнай партыі Беларусі Пятра Машэрава „слаўным сынам беларускага народа" з'яўляецца вялікім непаразуменнем. Перш за ўсё — заявіў дакладчык — быў ён „вялікім сынам Камуністычнай партыі Савецкага Саюза".

Віктар Астрога паказаў як адраджэнне дзяржаўнасці паўплывала на стаўленне да нацыянальнай ідэі беларусаў-афіцэраў савецкай арміі. Суполкі беларускіх вайскоўцаў узнікалі ў шматлікіх гарнізонах на тэрыторыі Расіі, Украіны, Казахстана, Малдовы. Згуртаванне беларускіх вайскоўцаў у Казахстане, кіраванае падпалкоўнікам Станіславам Суднікам, выдавала нават свой часопіс „Рокаш", карысталася беларускай нацыянальнай сімволікай. Суднік разам з палкоўнікам Цверскага гарнізона Вікенціем Чорным прабавалі зацікавіць найвышэйшыя ўлады незалежнай Беларусі справай стварэння нацыянальнай арміі. Спікер парламента Станіслаў Шушкевіч адказаў ім аднак, што ў вайсковых справах не мае ніякай арыентацыі, а прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч заявіў, што яго гэта не цікавіць. Стаўленне найвышэйшага дзяржаўнага кіраўніцтва да вайсковай праблемы таксама паказвае, чаму краіна павярнула ў мінулае, калі ўсе народы Сярэдняй і Усходняй Еўропы пачалі шукаць лепшай будучыні.

**Яўген Міранович**

 



Аляксей САЛАМОНАЎ — доктар тэхнічных навук, прафэсар (Беларусь)

# У ЧЫМ ЗАРАЗ ГАЛОЎНАЯ ЗАДАЧА БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ?

### 1. Што думае аб гэтым сам прэзыдэнт Беларусі?

Па яго глыбіннаму перакананьню і на думку адданай яму прыслугі яна ў тым, каб напаіць нас, абы-як дахам накрыць, накарміць і абагрэць. Адзначанае вынікае з усіх яго бясконцых выказваньняў паўсюдна. А каб прасьцей зьдзейсьніць тое, ён з усіх сіл штурхае Беларусь у ненасытную пастку Расеі пад злачынна хлусьлівыя сьпевы аб стварэньні адзінай самастойнай дзяржавы, у якой быццам будзе таксама дзьве поўнасьцю самастойныя дзяржавы: Беларусь і Расея пад яго непасрэдным началам. Але-ж, папершае, беларускі народ — не хатняя жывёла А. Лукашэнкі, бо створаны Богам з іншай мэтай. А, па-другое, такая адзіная дзяржава — бязглуздзіца вар'ята. Там мы хуткаператворымся ў абслугу "вялікага і магучага" рускага народу.

### 2. Меркаваньне апазыцыі аб гэтай задачы.

Колькі-б мы ні аналізавалі апошнія апазыцыйныя выказваньні, колькі-б ні чыталі артыкулы самых апазыцыйных газэт, пэўных, канкрэтных адказаў на пастаўленае ў загалоўку пытаньне знайсьці там практычна немагчыма. Бо іх там проста няма. Пакажам тое, разглядаючы канкрэтныя прыклады.

У атыкуле "Беларускі вопыт байкоту фальшывых выбараў" ("Народная воля, ад 31 кастрычніка 2000 г.) аднаго з вядучых лідэраў апазыцыі — прафэсара Ю. Хадыкі ў якасьці той задачы апошняга часу называецца "змаганьне за ўладу". Тое-ж самае, але ўжо на працяглы час, я знайшоў у інтэрв'ю М. Чыгіра — у тым-жа нумары "Народнай волі". Аднак улада сама па сабе бывае рознай і можа мець розныя мэты і, нават, супрацьлеглыя вынікі (напрыклад у Рузвэльта і Сталіна, Чэрчыля і Гітлера, Маргарэт Тэтчэр і Садама Гусейна, Станіслава Шушкевіча і А. Лукашэнкі). Разгарнуўшы гэтую-ж газэту за 4 кастрычніка, я вельмі пільна ўглядаўся ў артыкул А. Старыкевіча — другога вядучага лідэра апазыцыі. Толькі там таксама не знайшоў шуканага. Бо ўхваленьне "Акту незалежнасьці", прынятага Ўсебеларускім зьездам напярэдадні — далёка не галоўнае (хоць і важкае). Таму што, напрыклад, фашысцкая Нямеччына была больш чым незалежнай. Аднак гэта не перашкодзіла ёй штурхаць самую сябе на самазьнішчэньне ў сусьветнай крывавай бойцы. Адносна артыкулу "Без роднай мовы не адчуеш сябе чалавекам" (Народная воля", ад 18.10.2000 г.) можна сказаць, што руская мова паўсюдна панавала ў Расеі і СССР, а нямецкая — у той-жа фашыстоўскай Нямеччыне. Але ад гэтага названыя дзяржавы не перасталі быць драпежнымі. Апроч таго можна прывесьці нямала гістарычных прыкладаў, калі зьнікалі дзяржавы і нават народы, заснаваныя на сваёй роднай мове.

З артыкулу Васіля Якавенкі ("Ці будзе ў Беларусі створаны народны фронт" ("Народная воля, за 28.102000 г.) вынікае, што зараз галоўная задача для беларускага народу заключаецца ў стварэньні "Беларускага патрыятычнага фронту" (або руху), які можна таксама называць "Беларускім патрыятычным фронтам" (або рухам). Але куды прывёў Нямеччыну адзіны фашысцкі патрыятычны фронт, напрыклад, вядома. Можна сказаць: адзначаныя франты непараўнальныя. Аднак любы "фронт" без акрэсьленай мэтавай задачы можа прывесьці куды заўгодна.

Нічога для адказу на пастаўленае ў загалоўку артыкулу пытаньне не знайшоў я і ў аб'ёмным артыкуле Зянона Пазьняка "Камунізм як форма рускага імпэрыялізму" ("Народная воля, ад 15.9.2000 г.), бо гэтыя выказваньні з мностваи паўтораў ужо проста не ўспрымаюцца. Да таго-ж — камунізмам там і не пахне.

Ну, думалася, знайду шуканы адказ у І. Сярэдзіча, як вядучага апазыцыйнага журналіста. Толькі ў якасьці галоўнага там знайшоў такое захапленьне: "калі-б былі выкарыстаны швэдзкі вопыт" і "дзесяткі тысяч асуджаных выйшлі ў нас на волю для адбыцьця тэрміну пакараньня не ў турме, а... пад хатнім наглядам", "колькі-б было сэканомлена дзяржаўных грошай, наколькі-б палепшыліся ўмовы ўтрыманьня ў турмах астатніх асуджаных" ("Народная воля", ад 4.10.2000 г.). Толькі так і хочацца сказаць Іесіфу Паўлавічу, што, па-першае, сучасная Беларусь — далёка не сучасная Швэцыя, што прыйшла яна да сучаснага стану праз **вельмі жорсткія выкарчоўваньні злачынства.** А, па-другое, калі пашырыць тыя захапленьні, то любую дзяржаву можна давесьці да абсурду праз імкненьні дагадзіць злачынцам. У нас, напрыклад, выпушчаныя з турмаў дзесяткі тысяч зьняволеных (вядома не такіх як Старавойтаў або Леонаў) праз год-два падрыхтуюць сабе зьмену ў сотнях тысяч экзэмпляраў. Бо знаходзяцца там зараз у асноўным обэрзладзеі, рабаўнікі, бандыты, забойцы і насільнікі. І калі не выхаваць іх, або не зламаць іх злачынную сутнасьць, то яны проста ператвораць грамадзтва ў табун нелюдзяў.

У разгляданых адносінах зьдзіўляе мяне і доктар філасофскіх навук, прафэсар Вячэслаў Оргіш, які ў цэлым у сваіх карысных, але ў пэўнай ступені заблытаных артыкулах простае відавочнае здатны ўскладніць да звышпраблем, а самае складанае спрасьціць. Так, у артыкуле "Приговор привести в исполнение" ("Народная воля, ад 2 лістапада 2000 г.) галоўным лічыць "борьбу за возвращение в Беларусь демократии..." Толькі пры такім спрошчаньні беларускіх праблем трэба ўспомніць, што менавіта існуючая дэмакратыя прывяла да ўлады Гітлера ў Нямеччыне і Лукашэнку ў Беларусі. Абагульнена нельга згадзіцца і з ягонай фразай: "дела в экономике". Бо, напрыклад, на Ўкраіне жывуць ня лепей чым у нас.(!? Рэд.) Але ў цэлым сваім прэзыдэнтам Кучмам там задаволены. Таму што чалавечае ў людзях стварае не эканоміка, а іх сьвядомасьць з улікам абставін. Адпаведна, чым вышэй сукупная сьвядомасьць грамадзтва, тым параўнальна хутчэй і лепей яно ўздымае сваё эканамічнае становішча. Цемрашалы-ж, зьмешчаныя нават у райскія ўмовы з пазалочанымі палацамі, у рэшце рэшт апаганяць, прап'юць іх і зноў вернуцца ў жабрацкі стан.

### 3. Погляд на гэтую задачу сучасных каранаваных пісьменьнікаў Беларусі.

Не знайшоўшы адказаў на пастаўленае пытаньне ў галоўнай апазыцыйнай газэце Беларусі, я зьвярнуўся ў "Комсомольскую правду"" і "Труд" в Беларуси", якія маюць прэтэнзіі на павышаную інтэлектуальнасьць. У першай з названых газэт (ад 20.10.2000 г.) знайшоў артыкул нядаўняга галоўнага пісьменьніка Беларусі Ўладзіміра Някляева, у якога " любовь к Беларуси как... к живому существу, которое надо оберегать, о котором надо ежедневно думать" (стр. 14, артыкул "Владимир Некляев думает про Беларусь"). Гэта вельмі добра, хоць і па-руску напісана, відаць, таму, што "Комсомольская правда в Беларуси" беларускафобная ў моўных адносінах ва ўласна карысных мэтах. Толькі галоўнае для Беларусі шаноўны Ўладзімір сфармуляваў наступным чынам: "Вот если бы... белорусы рождались, абсолютно об этом не задумываясь, и жили бы белорусами, тоже абсолютно не помышляя об этом, тогда бы и образовалась та сказочная Беларусь, о которой мы все сегодня столько говорим и читаем". Толькі-ж, выходзячы з рэаліяў ісьціны, пры ўсёй павазе да Ўладзіміра Пракопавіча вымушаны сказаць яму наступнае:

— Чалавек любой этнічнасьці і нават звышгеніяльнасьці ня можа "рождаться задумываясь" ці не задумываясь наогул, а тым больш — аб сваёй этнічнасьці, якую часта называюць нацыянальнасьцю. Бо яшчэ існуючая істота ня можа плянаваць — пазбаўлена рабіць штосьці, а тым больш — ствараць.

— Калі "жить белорусом, тоже абсолютно не помышляя об этом", гэта значыць ня думаючы аб лёсе роду беларускага, то ён проста зьнікне. І невядома каму тое шчасьце, аб якім піша Ўладзімір Пракопавіч, дастанецца. Аб пагрозе такога поўнага зьнікненьня кажуць наступныя лічбы: "Калі ў 1997-1998 навучальным годзе ў першых клясах Менску вучылася на беларускай мове яшчэ 7,3 працэнты дзяцей ад агульнай колькасьці першаклясьнікаў, то ў 1998-1999 годзе гэты паказчык зьменшыўся ўжо да 4,86 працэнта... І ўжо зусім страшэнна малая лічба (усяго 108!) беларускамоўных выпускнікаў ІІ клясаў. І гэта на 2-х мільённую сталіцу, дзе каля 80 працэнтаў грамадзян — беларусы." (Саламонаў А. "Этнацыд беларусаў нарастае" — у навуковым зборніку "Аняменьне", Вільня. "Gudas". 2000 г. стр. 181). У дадатак да сказанага ўлічым, што ў выпускнікоў школ Беларусі цалкам адсутнічае пэрспэктыва працягу беларускамоўнага навучаньня ў сярэдніх спэцыяльных і вышэйшых навучальных установах, мова поўнасьцю выцясьняецца з грамадзкага ўжытку. Яна становіцца зусім непатрэбнай у нашай радзіме. Калі так працягнецца (пагроза чаму рэальная), то праз 1-2 пакаленьні беларусаў, як этнасу, не стане зусім. У выніку з цэльнага, непарыўнага ланцуга агульначалавечай супольнасьці выпадзе непаўторнае, самабытнае, 12-мільённае (тых, хто ў сьвеце адносіць сябе да беларусаў) зьвяно беларускага этнасу. Чалавецтва зьбяднее ад гэтага. Бо Бог невыпадкова стварыў разнастайныя этнасы. А каб праз добразычлівае ўзаемадзеяньне тых рознасьцяў забясьпечыць умовы для безупыннага разьвіцьця ўсяго чалавецтва. Таму **караул** трэба крычаць на ўвесь Божы сьвет. SOS (ратуйце!!!) пасылаць **усяму** люду, а "не жить белорусом, не помышляя об этом" да чаго заве Ўладзімір Някляеў, пакінуўшы нас сам — на сам з сатанічна-зьнішчальным наступам на род БЕЛАРУСКІ.

Яшчэ горшае ўражаньне ў гэтых адносінах зрабіла на мяне Сьвятлана Алексіевіч сваім артыкулам **"Мы — люди лагерного сознания"** ("Труд-7" ад 19.10.2000 г.). Яна там ня раіць нам шукаць якіясьці адказы. Яна проста ў разчараваньні "на два года уехала в Европу — сначала в Италию, потом во Францию" (з таго-ж артыкулу). І не для таго, каб адтуль дапамагаць Беларусі і змагацца за яе народ, за захаваньне і развіцьцё роду беларускага, што нават у сталінскіх турмах рабіла **Ларыса Геніюш — сапраўды вялікая дачка беларускага народу.** А каб "абстрагироваться от специфических белорусских проблем, от устаревшей системы ценностей, насождаемых нашей стране", пісаць кніжку аб "вечной охоте (любви — аўт.)". Чаму? А таму, што: — "мы — люди лагерного сознания"; "во власти не оказалось тех, кто мог бы генерировать новые идеи" (праўда — не названыя ёю); люди из оппозиции — такие же заложники прошлого"; "их национальный романтический шаманизм привел к поражению"; "лидеры оппозиции разговаривают с народом на разных языках", а "бацька" для народа свой"; "интеллигенция, элита общества — чужаки в своей стране"; што ёй "стыдно бывает смотреть как немолодые сельские женщины ползают на коленях по полю — выкапывают картошку"; што "мы никогда не будем голландцами"; што яна (Алексиевич) "отказывается понимать людей, существующих на руинах". Больш таго, яна з незадавальненьнем піша ў наш адрас: "чего стоят только одни лозунги: "людьми звацца! Беларусь, занимай свое место среди народов" — " и это (павучае яна нас, лагернікаў) в теперешнем мире, где преобладают новые технологии..."

Ня буду, зараз аналізаваць, прабачце, усю гэтую чухну за адсутнасьцю часу і месца. Упэўнена скажу толькі наступнае:

— гісторыя паставіць у свой час залаты помнік нашай апазыцыі нягледзечы на ўсю яе сучасную недасканаласьць; нацыянальная ідэі — не шаманізм, а неадступная патрабаваньне часу, каб пры любых найнавейшых тэхналёгіях захаваць **чалавека і зьберагчы этнасы і нацыі з мэтай** забеспячэньня становучага ўзаемадзеяньня іх рознасьцяў, прадугледжаных ад Бога, для безупыннага самаўдасканаленьня ўсяго чалавецтва; сапраўдная інтэлектуальная эліта ў нас ёсьць і ёй не "не стыдно", а нясьцерпна балюча глядзець на пакуты народу і яна робіць, будзе рабіць і ў многім ахвяроўваць сабою, каб узьняць з руінаў свой народ, яго самасьвядомасьць, яго чалавечую годнасьць і скіраванасьць ня толькі людзьмі звацца, але і прыстойна быць імі, каб дапамагчы яму **ганарліва заняць сваё месца ў цывілізаванай супольнасьці народаў.** Сьвятлане-ж Алексіевіч, выпадкова ўзьнятай нядаўняй хваляй афганскага часу, застаецца роля не саўдзельніцы, а старонняй самаўзвышанай назіральніцы, якая і зараз "не испытывает той бедности, в которой живет... наш народ" (цытаты з таго самага артыкулу С. Алексіевіч, якая, дарэчы, ніколі ня піша пабеларуску).

Погляды іншых прадстаўнікоў амаль чатырохсотай грамады саюзу пісьменьнікаў Беларусі аналізаваць ня буду, хоць яны не заўжды амаль поўнасьцю супадаюць з меркаваньнямі іх нядаўняга старшыні У. Някляева. Ёсьць у тым асяродку і рашучыя, ваяўнічыя заклікі. Аднак абагуленага, уратавальна-вядучага там няма.

 

**4. Пэўны адказ дае аналіз думак беларускіх асьветнікаў і мысьліўцаў часоў росквіту нашай дзяржавы ў сярэднявеччы.**

У гэтым сэньсе з глыбінь гістарычнай думкі той мінуўшчыны найбольш узвышаюцца неўміручыя постаці Сымона Буднага (каля 1530 г. — 13.I.1593 г.) і Васіля Цяпінскага (каля 1540 г. — 1603? г.). Першы з іх — "беларускі гуманіст, асьветнік, рэлігійны рэфарматар, філёсаф, сацыёлаг, гісторык. Скончыў факультэт вольных мастацтваў Кракаўскага ўнівэрсытэту, і, магчыма, тэхналягічны факультэт Базэльскага унівэрсытэту. З 1558 г. выкладаў на беларускай мове катэхізіс ў пратэстанцкай школе ў Вільні" ("Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі". Том 2. Мінск. 1994 г., стар.115). У 1572 г. ён выдаў Біблію, а ў 1574 г. у Лоску (каля Валожына), Новы Запавет з прадмовай, камэнтарамі і заўвагамі, што было першай у сусьветнай літаратуры спробай радыкальнай рацыяналістычнай крытыкі евангельскіх кніжак. Гэтым ён фармаваў беларускае вольнадумства, прагрэсыўную ідэялёгію найбольш развітой часткі тагочаснага беларускага грамадзтва. Яго намаганьнямі фармавалася і ўкаранялася (праз уплыў на беларускае шляхецтва) нацыянальная сьвядомасьць беларусаў. Гэтая дзейнасьць спрыяла рэалізацыі ягоных ідэй разьвіцьця беларускай мовы, самабытнасьці і культуры.

Сучасьнік і паплечнік Сымона Буднага Васіль Цяпінскі таксама — "беларускі гуманіст — асьветнік, пісьменьнік і кнігавыдавец" ("Мысьліцелі і асьветнікі Беларусі" — энцыкляпэдычны даведнік. Мінск. 1995 г. стар. 154-156). Ягоныя першыя рысы беларускасьці былі закладзены на генным узроўні ў сям'і бацькі — "дробнага гаспадарскага баярына Полацкага павету — гістарычна бачнай Зыходнай калысцы беларускай дзяржаўнасьці і этнічнасьці. Гэтыя рысы былі дапонены падканцлерам Вялікага княства Літоўскага, у якога Васіль Цяпінскі служыў у маладосьці. На фармаваньне В. Цяпінскага як змагара за беларускасьць і прагрэсыўнага гуманіста зрабіў уплыў Сымон Будны, з якім у яго былі асабістыя і ідэйныя сувязі. У гэтым сэньсе В. Цяпінскі быў ня толькі поўнасьцю аддадзенай, але вельмі дзейснай асобай. На свае ўласныя сродкі ён арганізаваў у родным Цяпіне друкарню для выданьня кніжак на беларускай мове. Поўнасьцю пераклаў на яе Евангельле, якое з-за недахопу сродкаў змог выдаць, на жаль, не поўнасьцю. Пра сваё высокае прызначэньне — служыць беларускаму народу — В. Цяпінскі пісаў у прадмове да гэтага твору. Мэтай яго выданьня было ўзьняцьце самасьвядомасьці беларускага народу, пашырэньне і паглыбленьне асьветы. Азначаная скіраванасьць і змаганьне В. Цяпінскага поўнасьцю аналагічныя намаганьням лепшай часткі сучаснай беларускай эліты супрацьстаць наступу на беларускасьць беларусафобаў рознага гатунку і штурханьню нашай радзімы ў ненасытную імпэрскую пастку Расеі. "Асноўную прычыну цяжкага становішча і заняпаду сваёй Айчыны ён бачыў у паланізацыі і каталізацыі беларусаў, у падтрымцы гэтай палітыкі мясцовымі феадаламі", якія ..."самі адракаліся ад таго, што калісьці было зроблен а іх "фалебнымі продкамі", саромеліся свайго паходжаньня і мовы". Таму ён рашуча змагаўся за навучаньне ў школах на беларускай мове, "дастаткова багатай для выкарыстаньня яе ў навучальных установах. Як бачым, гісторыя паўтараецца для беларусаў. Толькі пераважны наступ з захаду зьмяніўся на няўмольны ціск з усходу ад другога "брата".

Мяркуюць, што менавіта В. Цяпінскі надрукаваў 2 творы Сымона Буднага: "Катэхізіс" і "Апраўданьне грэшнага чалавека перад Богам". Апошні — неўміручае стварэньне адносна вечнага роздуму аб прызначэньні жыцьця чалавека.

Са сказанага і яго аналізу яскрава відаць, што наша сучаснае глыбіннымі каранямі ў мінулым. Таму тагачасныя стваральнікі асноў беларскасьці сярэдневечча неўміруча з намі. Праз іх стваральны Розум, іх скіраванасьць у пошуках мы павінны раіцца з імі заўжды. Гэтую думку канкрэтна выказаў і акрэсьліў нястомны змагар за дзейсную прапаганду лепшых гістарычных набыткаў беларускасьці Анатоль Белы. У скульптурным выразе гэтую думку выдатна рэалізаваў вельмі таленавіты творца Ігар Голубеў. У выніку ў двары нашага БДУ побач сядзяць як жывыя вялікія постаці Сымона Буднага і Васіля Цяпінскага. Але ня проста сядзяць, а знаходзяцца ў вечным пошуку адказаў на неўміручае пытаньне, пастаўленае ў загалоўку гэтага артыкулу. Зробленая кампазыцыя, наданьне рэальнасьці роздуму і пошуку ў позе і выразах твараў **двух вялікіх асобаў** беларускай гістарычнасьці вабяць кожнага, хоць колькі-небудзь здольнага на мысьленьне чалавека. Вось чаму фотаздымак на другі-трэцці дзень пасьля устаноўкі гэтага таленавітага твору, абыйшоў практычна ўсе першыя старонкі вядучых беларускіх газэтаў. Толькі, на вялікі жаль, там няма ні аднаго слова аб стваральніках гэтай кампазыцыі, якая па выніковасьці ўплыву больш важка чым "многіх кніжак многапудзьдзе". Усё гэта створана вялікімі, працягімі намаганьнямі ў асноўным А. Белага і І. Голубева пры падтрымцы рэктара БДУ, але без якога-небудзь удзелу беларускіх уладаў.

**5. З сутнасьці тых часоў сярэднявечча вынікае, што зьберажэньне роду беларускага і стварэньне ўмоў яго разьвіцьця ў агульначалавечай цывілізаванай супольнасьці народаў планэты "зямля" — галоўная задача беларускага народу назаўжды.**

Ажыцьцяўленьне названай задачы магчыма пры наяўнасьці наступных палажэньняў, якія неабходна стварыць і пастаянна падтрымліваць.

— Умацаваньне і разьвіцьцё дзяржаўнай самастойнасьці нашай Беларусі, якая ў зыходным аб'ёме абвешчана Канстытуцыяй 1994 году.

— Зьберажэньне і разьвіцьцё беларускага этнасу як родаснай чалавечай супольнасьці, асярэднена ад Бога надзеленай на гэнным узроўні пэўнымі расава-біялягічнымі рысамі, сваёй мовай, сваім сукупным характарам і іншымі абагуленымі характарыстыкамі, што склаліся пад прыроднымі і гістарычнымі ўплывамі.

— Стварэньне на аснове карэннага этнасу трывалай і жыцьцядзейнай беларускай нацыі, як дзяржаўнай еднасьці грамадзян нашай Рэспублікі, аб'яднаных агульнымі аспэктамі беларускай культуры, сумеснага жыцьцезабеспячэньня, прыродна-гістарычных уплываў і лёсу.

— Наданьне паняцьцю "нацыяналізм" яго зыходнага зьместу, у адпаведнасьці з якім ён зьяўляецца ахоўным пачуцьцём, закладзеным ад Бога ў псыхіку кожнага нармальнага чалавека для зьберажэньня і разьвіцьця свайго этнічнага роду і сваёй нацыі пры павазе на тое-ж прадстаўнікам іншых народаў.

— Распрацоўка ўласнай нацыянальнай беларускай сыстэмы адукацыі, якая ня толькі дае неабходныя веды па агульных і канкрэтных напрамках, але і рыхтуе да самастойнага жыцьця, выхоўвае ў навучэнцаў ганарлівае пачуцьцё грамадзян Беларускай дзяржавы ў духу разуменьня яе галоўных задач і садзейнічаньня іх ажыцьцяўленьню на аснове прынцыпу: — праз уласнае да грамадзкага, ад агульнадзяржаўнага — да ўласнага з тым, каб кожны грамадзянін адчуваў сваю адказнасьць перад дзяржавай, а дзяржава — перад ім.

— Адказ ад паўсюдна ўбіванай у галовы людзей, у якасьці ісьціны, догмы аб тым, што эканоміка стварае чалавека. Давядзеньне да разуменьня людзьмі сапраўднай ісьціны, у адпаведнасьці з якой менавіта чалавек стварае эканоміку як сыстэму свайго жыцьцезабясьпячэньня (чэсны — сумленай працай, бандыт — грабяжом). Усьведамленьне на ўсіх узроўнях дзяржавы і грамадзтва наступнай аксіёмы: якая асярэдненая мараль грамадзтва, такая (пры аднолькавых іншых умовах) і яго эканоміка. Адзначанае тэрмінова патрабуе ад кіраўніцтва дзяржавы распрацоўкі і шырокага, дзейснага абмеркаваньня адпаведнай мералі на ўздыме асноў маралі наогул, а ў жыцьцезабясьпячэньні ўсіх і кожнага — у асаблівасьці.

— Прызнаньне злачыннымі дзеяньні сучасных дзяржаўных уладаў у напрамку поўнай непатрэбнасьці беларускай мовы, яе выцясьненьня з адукацыі, агульна-дзяржаўнага справаводзтва і ўжываньня ў грамадзтве наогул. Адпаведна наданьне беларускай мове статуса вядучай у агульнадзяржаўных адносінах.

— Большае прызначэньне сучаснай Акадэміі Навук Беларусі нацыянальнай сутнасьці Беларусі з тым, каб першаснай яе задачай зьяўлялася распрацоўка прынцыпаў зьберажэньня і разьвіцьця беларускай нацыі, забесьпячэньня жыцьцядзейнасьці беларускага народу.

— Уяўленьне таго, што сучасны безгалосны стан Саюзу пісьменьнікаў Беларусі ставіць яго і іх на мяжу незапатрабаванасьці грамадзтвам у нацыянальна-духоўных адносінах і, амаль што, непатрэбнасьці яму.

— Аб'яднаньне і сплачэньне беларускай нацыянальна-інтэлектуальнай эліты як вядучага мазгавога ядра беларускага народу, бо як мозг асобага чалавека накіроўвае ягоныя дзеяньні, так і сукупны мозг грамадзтва выпрацоўвае для яго рэкамэндацыі жыцьцядзейнасьці. Адпаведна ства рэньне дзяржаўнай сыстэмы павагі да прадстаўнікоў нацыянальна-інтэлектуальнай эліты. Прызнаньне злачыннасьцю цкаваньне з боку дзяржавы такіх тытанаў беларускай думкі, як Васіль Быкаў у сучасным, а Максім Гарэцкі — у мінулым.

— Усебаковая дапамога Беларускаму народу ва ўздыме яго нацыянальнай і агульначалавечай сьвядомасьці. **Данясеньне адпаведных вядучых ідэяў да іх глыбіннага разуменьня простымі людзьмі.** Адпаведна — стварэньне рэальнага доступу да дзяржаўных сродкаў інфармацыі (і асабліва электронных) для прадстаўнікоў розных палітычных плыняў і меркаваньняў (апроч дзяржаўна-злачынных) наогул, а для нацыянальна-інтэлектуальнай эліты — у асаблівасьці. Неадкладная поўная забарона манаполіі дзяржавы на перадачы па тэлебачаньні і радыё. Дзяржаўная падтрымка на ўзроўні "Звязда" і "Советской Белоруссии" ня менш чым дзьвюх вядучых апазыцыйных газэт.

— Наданьне дэмакратыі дзейсна-прагрэсыўнага зьместу з тым, каб ва ўсе органы кіраваньня краіны выбіраліся найбольш сумленныя, адпаведна адукаваныя, здольныя да глыбіннага мысьленьня і стваральнай працы, адданыя беларускай Радзіме людзі. Стварэньне пры гэтым умоў, каб нашым грамадзтвам кіраваў сукупны Розум, дапаўняны выніковым Гуманізмам і дзейсным клопатам аб захаваньні жыцьця на зямлі, аб станоўчым сучасным і прагрэсыўным будучым беларускага народу.

— Рашучае недапушчэньне паглынаньня Беларусі Расеяй у любым выглядзе і ў тым ліку праз насаджэньне сучаснымі беларускімі і расейскімі ўладамі абсурднай саюзнай дзяржавы, у якой у дзяржаўных адносінах ад сапраўднай самастойнасьці Беларусі застанецца тое-ж, што і ад Чачні, а ў этнічных — паскоранае поўнае этнічнае зьнікненьне беларусаў. Таму прыцягненьне да суровай крымінальнай адказнасьці ўсіх тых, хто ў адчыненым ці ў любым замаскаваным выглядзе робіць адпаведныя захады да зьнікненьня самастойнай беларускай дзяржаўнасьці або роду беларускага ў этнічных адносінах.

— Самастойнае, раўнапраўнае, годнае ўваходжаньне нашай краіны ў агульную садружнасьць цывілізаваных народаў пры ўзаемакарысных адносінах з усімі суседзямі.

— Наданьне Ўсебеларускім зьездам, якія арганізуюцца нацыянальна-інтэлектуальнай элітай, уплывовай грамадзкай значнасьці. Стварэньне **Ўсебеларускай Рады** гэтай эліты на першым з такіх чарговых зьездаў. Надзяленьне гэтае рады правам выказваньня сваіх меркаваньняў па любых важкіх дзяржаўных пытаньнях і ў тым ліку аб выбарах наогуг, а прэзыдэнта дзяржавы — у асаблівасьці.

# Лукашэнка трымаецца на расейскай разьведцы

Менавіта так ацаніла расейская Газета.Ру сустрэчу Лукашэнкі і кіраўніка Службы зьнешняй разьведкі Расеі Сяргея Лебедзева, якая прайшла 9 лістапада ў Менску. Пад час сустрэчы Лукашэнка станоўча ацаніў супрацоўніцтва спецслужбаў Расеі й Беларусі: "После развала СССР спецслужбы двух стран не разошлись".

Лукашэнка таксама выказаў падзяку за інфармацыйную дапамогу, якую аказваюць яму спецслужбы Расеі і асабліва напярэдадні нейкіх сур'ёзных падзеяў на Беларусі. Гэта, па ягоных словах, дазваляе спакойна перажыць гэтыя падзеі. Асаблівую падзяку выказаў Аляксандар Лукашэнка за дапамогу ў падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў.

Як адзначае Газета.Ру у сваім камэнтары, *«служба зьнешняй разведкі Расеі, насуперак законам РФ, працуе ня толькі на Пуціна, але й на Лукашэнку: СЗР рэгулярна прапануе яму аналітыку, а таксама апаратыўныя матэрыялы. Сэнсацыйнае прызнаньне, якое прагучала з вуснаў самаго Лукашэнкі, павергла ў глыбокі шок кіраўніка СЗР генерал-лейтэнанта Лебедзева».*

 



Расьціслаў ЗАВІСТОВІЧ (ЗША)

# КРАІНА ХЛУСЬНІ І АШУКАНСТВА



Самаю вялікаю ня толькі матэр'яльнаю, але і маральнаю нястачаю ў цяперашняй Расеі ёсьць недахоп звычайнае праўды. Гэты аспэкт беднасьці чырвонаю ніткаю прабягае праз усю імпэрскую гісторыю Расеі. За савецкіх часоў недахоп праўды быў нагэтулькі вялікі, што хлусьня сталася ўзорам штодзённага жыцьця і працы. Катэгорыямі праўды ніхто бадай што і ня думаў. Імпэрскі ўрад рабіў прышчэпку супроць праўды. Замест яе ў галовы людзей убівалася пачуцьцё пільнасьці, недаверу, нянавісьці ня толькі да чужынцаў, але і да сваіх, да свіго народу. У мінулым жнівені ўвесь сьвет быў сьведкаю таго, як маніпулююць праўдаю расейскія лідэры сучаснай Расеі.

Калі на расейскай падводнай лодцы "Курск" адбыўся выбух у Барэнцавым моры, расейскія адміралы спачатку нічога не гаварылі пра катастрофу на лодцы і толькі пасьля 4-ох дзённага маўчаньня ня толькі адміралаў, але і самога прэзыдэнта Расеі Пуціна, пачалі перш хлусіць пра нейкія стукі, якія ішлі нібыта з лодкі, і, нарэшце, абвінавачваць у катастрофе нейкую неіснуючую, зразумела заходнюю, падводную лодку, якая, зрабіўшы наўмысную катастрафальную сутычку з расейскай падводнай лодкай, утапіла яе. Усё гэта рабілася нягледзячы на супярэчлівыя выказваньні нарвэскіх спэцыялістаў, якія зарэгістравалі вялічэзны выбух у тым месцы Барэнцавага мора, дзе расейская лодка знаходзілася 12-га жніўня, у дзень катастрофы.

Напрацягу тыдня расейскія марскія спэцыялісты не маглі адчыніць люк на непадарванай частцы свае падводнае лодкі і нейкі дзівацкі гонар не дазваляў ім згадзіцца прыняць запрапанаваную дапамогу ад шэрагу заходніх дзяржаваў. Так, гэты дзівацкі расейскі нацыянальны гонар!.. Можна толькі ўяўляць якім настырлівым ён быў-бы, каб Расеі і сапраўды можна было-б чым пахваліцца.

Нават згадзіўшыся на нарвэскую дапамогу пад прымусам сем'яў загінуўшых, расейскія ўлады паводзілі сябе вельмі несумленна. Нарвэскі адмірал Аінер Скоргэн, кіраўнік выратавальнае групы, казаў, што расейскія афіцэры давалі хлусьлівую інфармацыю пра стан свае падводнае лодкі на дне Барэнцавага мора. Дзякуючы шчасьлівым акалічнасьцям, нарвэжцы, ведаючы мора і сваіх суседзяў, ставіліся скэптычна да гэтае інфармацыі. Паверыўшы расейскім афіцэрам, нарвэскія выратавальнікі маглі-б трапіць у небясьпечную сытуацыю, якая-б пагражала жыцьцю нарвэскіх вадалазаў. І ўсё гэта рабілася наўмысна. Расейскія спэцыялісты, якія так і не змаглі адчыніць люк на сваёй-жа лодцы, маглі-б, каб, крый Божа, сярод навэжцаў былі ахвяры, гаварыць, што іхняя тэхналёгія і ўмельства настолькі вялікія што хоць яны і не змаглі адчыніць люк, але-ж ніхто ў выратавальным працэсе не загінуў. Пачуцьцё незаслужанай вышэйшасьці і ганарыстасьці заўважаецца напрацягу ўсяе расейскае гісторыі. Гэтае пачуцьцё лепшасьці перакінулася нават у побыт народу, асабліва падчас савецкага пэрыяду расейскай гісторыі. Часта гэтае пачуцьцё прыймае досыць сьмяхотную форму.

Амэрыканскі журналіст Гэдрык Сміт, які даволі добра ведае расейскую мову, пражыўшы некалькі гадоў у былым Савецкім саюзе, напісаў кнігу "Расейцы" ("The Russains"). У гэтай кнізе ёсьць наступнае апавяданьне. Жонка аднаго досыць высокага савецкага "чынадрала" даведалася, што яе муж мае каханку — балярыну. Жонка дамаглася таго, каб з мужам пайсьці ў тэатр і пабачыць яе на сцэне. І вось калі па сцэне прабегла ў танцы перш адна, а пасьля другая балярына і муж сказаў, што гэта не яна, дык дачакаўшыся яе, трэцяе, жонка адкінулася ў крэсла і з нейкім дзівацкім гонарам так і ўсклікнула — "наша лучшая". Вось такая калектыўная згода пра лепшасьць! Але вернемся да хлусьні.

На гэтым месцы прыгадваюцца два выпадкі афіцыйнае расейскае хлусьні: Чарнобыльская катастрофа ў 1986 годзе і забойства польскіх палонных жаўнераў у Катынскім лесе ў 1940 годзе.

Пасьля выбуху атамнага рэактару 26-га красавіка 1986 году ў Чарнобылі, расейскі ўрад не паведаміў нават жыхароў блізкіх мясцовасьцяў і гэтым самым зрабіў іх ахвярамі радыяцыйнае катастрофы. Першамайскія сьвяткаваньні праходзілі як і заўсёды, нібыта нічога ня сталася. Фактычны кіраўнік дзяржавы, вялікі перабудоўшчык Міхаіл Гарбачоў аб'явіў па тэлебачаньні пра Чарнобыльскую бяду толькі праз два тыдні пасьля таго, як яна сталася, у той час, як Захад біў, як кажуць, трывогу ад самага пачатку катастрофы. А ці можна забыцца пра крымінальны ўчынак расейскага ўраду, які патаемна не дазволіў радыяцыйнай хмары рухацца пад уплывам ветру на ўсход, а пасадзіў яе над Гомельшчынай і Магілёўшчынай? Ці можна забыцца пра атручаную Беларусь?

Найбольш драматычным прыкладам расейскае хлусьні і дэзінфармацыі былі масавыя забойствы польскіх палонных жаўнераў у Катынскім лесе. Напрацягу паўстагодзьдзя расейскія ўлады адмаўляліся ад гэтага злачынства, абвінавачваючы ў гэтым сваіх былых нацысцкіх паплечнікаў. Цяпер расейскія лідэры любяць сьпіхаць віну за ўсе свае грахі на Сталіна. Так, Сталін быў вялікім злачынцам, але-ж ня трэба забывацца, што Расея ўрэшце прызналася ў злачынстве перад польскім народам толькі перад адыходам Гарбачова з пасады прэзыдэнта — 40 гадоў пасьля сьмерці Сталіна. У гісторыі людзтва цяжка знайсьці падобных да гэтага прыкладаў, прыкладаў пяцідзесяцігадовай хлусьні. Але-ж...

У 1843 годзе французкі арыстакрат Маркіз дэ Кюстын пасьля падарожжа па Расеі, напісаў пра свае ўражаньні кнігу "Расея ў 1839 годзе". У сваёй кнізе Кюстын гаварыў пра патаемнасьць расейскага грамадзтва і натуральную здольнасьць расейскіх палітыкаў да хлусьні і ашуканства. Кюстын адчыніў Заходняму сьвету тую голую Расею ў якой панавалі недавер, падазронасьць да Захаду, страх перад чужынцамі, шпіёнаманія, сыстэматычная дэзінфармацыя, безупынныя клопаты пра вонкавае ўражаньне, схільнасьць да пераіначваньня гістарычных фактаў. Чытаючы гэтую кнігу міжвольна паўстае вобраз сталіншчыны і ўсяго часу савецка-расейскага пэрыяду і наагул усяе гісторыі імпэрскае Расеі. Цяжка нават верыць з якой дакладнасьцю ўражаньні Кюстына пра Расею 1839 году будуць ізноў паўтарацца ў жыцьці Расеі праз 100 гадоў расейскай гісторыі.

Як бачым, у трактаваньні праўды, у Расеі за апошнія 150 гадоў нічога не зьмянілася. Як ужо гаварылася, лепшым гэтаму прыкладам быў парадак падачы інфармацыі пасьля катастрофы з падводнаю лодкаю. А выпрацаваны парадак зводзіўся да наступнага: найперш безсаромна сказаць, што тыя факты, якія ўвесь сьвет лічыць праўдзівымі, ёсьць нічым іншым, як хлусьнёю. Пасьля, калі першы шок пачынае мінаць, пагадзіцца з тым, што тое, што здавалася перш хлусьнёю ёсьць усё такі праўдаю — мы, маўляў, шчыра памыляліся. І, нарэшце, пачаць выказваць удзячнасьць усім, асабліва чужынцам, за словы спагады і сардэчнасьці. Парадак падачы інфармацыі быў стратэгічным манэўрам, маніпуляцыяй праўды. Прычыны такога стаўленьня трэба, мабыць, шукаць у гісторыі краіны.

І яшчэ адна цікавая дэталь з паводзінаў сучасных расейскіх лідэраў, якую паказалі на нашым тутэйшым тэлебачаньні. Калі жанчыны загінуўшых падводнікаў пры спатканьні з кіраўніком сьледчае камісіі, заступнікам расейскага прэм'ера Клябанава, пачалі публічна абвінавачваць урад за хлусьню і ашуканства, а ў аднае з прысутных эмацыянальная ўзбуджанасьць пераступіла мяжу талерантнасьці расейскіх уладаў да непакорнасьці падуладных, да яе "на дапамогу" падыйшло двух афвіцэраў і жанчына ў цывільнай вопратцы са шпрыцам у руках. Жанчына са шпрыцам, не пытаючыся згоды ўзбуджанай, хуценька зрабіла ёй ін'екцыю праз вопратку ў якой тая стаяла і ўзбуджаная адразу сьціхла. Прысутны на тэлебачаньні псыхіятр, назваўшы гэтую працэдуру хуткай мэдычнай дапамогай, запэўніў гледачоў, што хуткадзейная анэстэзія не прыносіць адмоўнага доўгатрывалага эфэкту на псыхічную дзейнасьць чалавека. Цікава, што на Захадзе такія працэдуры выкарыстоўваюцца для таго, каб спыніць нечаканую разьюшанасьць дамашніх жывёлы і зьвяроў. Мабыць "перадавыя" расейскія мэдычныя рэцэпты не дайшлі яшчэ да мэдычнага розуму Захаду.

Заходнія палітыкі павінны заўсёды ведаць, што праўда і выказваньне яе расейскімі лідэрамі ня маюць сталае традыцыі ў Расеі. Гэта павінны памятаць і сябры апазыцыі ў Беларусі.

Нядаўна паведамлялася, што дэлегацыя Аб'яднанай Грамадзянскай партыі на чале з Анатолям Лябедзькам езьдзіла ў Маскву на перамовы з прадстаўнікамі расейскіх "лібэралаў", фракцыі Саюзу Правых сілаў і прадстаўнікамі прэзыдэнта Пуціна ў канцы мінулага кас- трычніка. Ну, што-ж езьдзіць можна... Калі пуцінская Расея вынішчала і да сёньняшняга дня прадоўжвае агнём і мячом нішчыць чачэнскую незалежнасьць ніхто з гэтых расейскіх "лібэралаў" нідзе і ніколі не запратэставаў супроць пуцінскае злачыннае вайны, супроць фізычнага вынішчэньня чачэнскага народу.

Што тычыцца Беларусі, дык нашая Бацькаўшчына ня ёсьць незалежнаю дзяржаваю, а акупаванаю краінаю, пуцінскаю марыянэткаю. У "Беларускім Дайджэсьце" за мінулы ліпень пададзены ліст усіх міністраў і іхных заступнікаў у Беларусі. Усе гэтак званыя беларускія міністэрствы ў руках людзей расейскае нацыянальнасьці. Яны кіруюць Беларусяй. Іх падтрымоўваюць расейскія "лібэралы", якія ніколі не прызнавалі права за Беларусяй быць незалежнай дзяржавай. Езьдзіць і шукаць расейскіх "лібэралаў" няварта, бо праўдзівых сярод іх няма. Яны яшчэ не нарадзіліся...

Такога пагражальнага стану для жыцьця беларусаў як нацыі, не было нават і за часоў сталіншчыны. Ці-ж гэта не абраза, што кіраўніцтва адукацыі ў Беларусі ў расейскіх руках? Гэтыя адукуюць!... Збываюцца словы Мураўёва-вешальніка, які прарочыў, што ня зброяю, а прымусоваю асыміляцыйнаю школаю Расея закончыць барацьбу з беларушчынай і беларускаю нацыяй. Міністры Беларусі — служкі пуцінскае Расеі, не хаваючы нават свайго захопніцкага выгляду, безсаромна зьдзекваюцца з нашае культуры, нашых традыцыяў, нашага самабыту. Сум агортвае душу, глянуўшы на залучаны здымак "Да навучальнага году гатовы!", узяты з беларускамоўнае газэты "Звязда" за 17-га жнівеня гэтага году, на якім шасьцікласьнік Андрэйка трымае цэлы абярэмак школьных падручнікаў і з іх ніводнага беларускага!

## Да навучальнага года ГАТОВЫ!

*За сем месяцаў гэтага года унітарным прадпрыемствам рэспублікі — Мінскім паліграфічным камбінатам імя Я. Коласа выпушчана больш за 2 мільёны экзэмпляраў кніг і брашур. Значная частка друкаванай прадукцыі прызначана для юнага пакалення беларусаў — 45 найменняў падручнікаў. Яшчэ 11 назваў кніг і брашур агульным тыражом 425 тысяч экзэмпляраў паліграфісты плануюць выпусціць у жніўні.*




 

# ПРАВААБАРОНЦАЎ СТАЛА БОЛЬШ

**У Беларусі пабольшала на адну праваабарончую арганізацыю: 12 лістапада прайшоў устаноўчы сход Рэспубліканскага грамадзкага аб'яднаньня "Гельсінкі-ХХІ".**

Значную частку сяброў новага аб'яднаньня склалі тыя, хто гэтай восеньню, незадоўга да выбараў у Палату прадстаўнікоў, па ўласным жаданьні выйшаў са складу Беларускага Гельсінкскага камітэту. Галоўнымі прычынамі такога кроку называліся дзьве: нязгода з "аўтарытарнымі" метадамі кіраваньня старшыні БХК Тацяны Процькі ды несупадзеньне пазіцыяў па байкоту ці ўдзелу ў выбарах.

Для стварэньня новай арганізацыі пад сімвалічнай назвай "Гельсінкі-ХХІ" у Доме культуры ветэранаў сабралася амаль паўтары сотні актывістаў з усіх абласьцей Беларусі. Былі вырашаныя арганізацыйныя пытаньні, што тычыліся прыняцьця Статуту і абраньня кіраўнічых органаў – Сойму з пяці чалавек і Рады з дзевяці. Што ж да кіраўніка новага праваабарончага аб'яднаньня, дык яго, паводле Статуту новай арганізацыі, абярэ Рада са свайго складу бліжэйшым часам. Сярод сяброў Рады "Гельсінкі-ХХІ" шмат вядомых у Беларусі асобаў: Аляксандр Патупа, Валеры Філіпаў, Рыгор Барадулін, Сьвятлана Алексіевіч, Юры Хашчавацкі, Валянцін Тарас, Уладзімір Халіп.

У якасьці гасьцей на ўстаноўчым сходзе РГА "Гельсінкі-ХХІ" прысутнічалі прадстаўнік Кансультатыўнаназіральнай групы АБСЕ у Мінску Ганна Чарнышова, супрацоўнік амбасады Нямеччыны ў Мінску сп. Крэмер, а таксама прадстаўнікі іншых дзеючых у Беларусі праваабарончых структураў — Вера Страмкоўская, Алег Волчак, Надзея Дударава, Алесь Бяляцкі... Праўда, сярод гасьцей не назіралася нікога з БХК. Адказваючы на пытаньні журналістаў, кіраўнік ініцыятыўнай групы па стварэньні "Гельсінкі-ХХІ" палітолаг Аляксандр Патупа зазначыў, што новая арганізацыя ня будзе мець на мэце канкурэнтную барацьбу з ужо існуючымі праваабарончымі грамадзкімі аб'яднаньнямі. Адзначаючы факт існаваньня Беларусі ў разбураным прававым полі і тое, што абараняць свае правы ў краіне мусяць нават творчыя ды прафесійныя саюзы, актывісты новай арганізацыі разумеюць важную ролю менавіта адмысловых праваабарончых утварэньняў. Акрамя таго, яны, па словах А. Патупы, ставяць на мэце "стварэньне пазітыўнага ўзору праваабарончага руху".



## Пра пераклады Сьв. Пісаньня

...Колькасьць перакладаў Сьвяшчэннага Пісаньня, і асабліва Новага Запавету, на беларускую мову, больш, відаць, чым на любую іншую мову. Вось такі парадаксальны факт, на які ў нас не зьвярталі ўвагі. Я, натуральна, вымушаны быў у меру сваіх сьціплых магчымасьцяў хоць коратка ахаракта- рызаваць асноўныя пераклады, якія рабіліся".

Але усё ж колькі такіх перакладаў?

Я не займаўся адмысловымі падлікамі, але сам пералік перакладаў займае тры кніжныя старонкі. Асноўныя з гэтых перакладаў – Луцкевіча, Гадлеўскага, Татарыновіча, Станкевіча, Сёмухі, Клышкі, кс. Чарняўскага, і асобныя выданьні ў перакладзе Пятроўскага, а таксама шэраг іншых, якія выдаваліся без намераў шырокага карыстаньня. Я ня здолеў зрабіць падрабязны, грунтоўны аналіз усіх выданьняў, а таму прысьвяціў больш увагі найбольш тыражнаму і вядомаму перакладу Васіля Сёмухі. Разам з тым, калі на маё меркаваньне, то з усіх выданьняў лепшае па якасьці Міхася Міцкевіча, брата Якуба Коласа, зробленае ім на эміграцыі".

Але, здаецца, Міхась Міцкевіч выдаў толькі адно Эвангельле...

Ня толькі. У яго і выдадзеныя два пераклады, а ёсьць яшчэ і пераклады рукапісныя. Прычым ён перакладаў ня толькі Сьвяшчэннае Пісаньне, але і вельмі шмат багаслужбовых тэкстаў...

Так кажа праф. Іван Чарота, аўтар кнігі "Беларуская мова і царква"

# ЛУКАШЭНКА ЗЬНЯЎ СТАРШЫНЮ КДБ МАЦКЕВІЧА, СТАРШЫНЮ САВЕТА БЯСЬПЕКІ ШЭЙМАНА І ГЕНЕРАЛЬНАГА ПРАКУРОРА БАЖЭЛКУ

Раніцай 27 лістапада стала вядома аб тым, што Загадам Лукашэнкі са сваіх пасадаў зьнятыя старшыня беларускага ГДБ Уладзімер Мацкевіч, старшыня Савета Бясьпекі Віктар Шэйман і Генэральны пракурор Беларусі Алег Бажэлка. Аб фармулёўках, зь якімі звольненыя галоўныя сілаікі краіны і бліжэйшыя паплечнікі Лукашэнкі, пакуль невядома.

Адначасова Лукашэнка выдаў Загад аб прызначэньні старшынёй КДБ Леаніда Ерына, які кіраваў ягонай службай бясьпекі. Дзяржаўным сакратаром замест Шэймана стаў міністар замежных справаў Урал Латыпаў.

Фактычна зьняцьцё з ключавых дзяржаўных сілавых пасадаў азначае, што ў краіне адбыўся чарговы ўнутранны дзяржаўны пераварот. На адказныя пасады прызначаныя людзі, якія, ні для каго не сакрэт, зьяўляюцца прамымі стаўленьнікамі Расеі ў атачэньні Лукашэнкі. Кіраўніком міністэрства ўнутраных справаў Беларусі застаўся Уладзімер Навумаў - чалавек, які таксама моцна зьвязаны з расейскімі спэцслужбамі.

Пасьля сёньняшніх перастановак усе ключавыя пасады ў беларускім кіраўніцтве займаюць выхадцы з Расеі альбо людзі, якія прыйшлі ва ўладу ў нашай краіне непасрэдна адтуль - прэм'ер-міністар Ярмошын і ўсе віцэ-прэм'еры, усе намесьнікі міністра замежных справаў, большасьць намесьнікаў міністраў унутраных справаў, юстыцыі, эканомікі, адукацыі і іншых ключавых міністэрстваў. І зараз вось - усе сілавыя міністры.

Лукашэнка цалкам перастаў давяраць беларусам. Альбо яму загадалі гэта зрабіць.

## Міжнародны кангрэс

**Севярын Квяткоўскі**

ІІІ-ці Міжнародны кангрэс беларусістаў мае завяршыць сваю працу 5-6 сьнежня. Кангрэс адкрыўся на пачатку двухтысячнага году й абмяркоўваў праблематыку хрысьціянства. Цяпер жа, на пачатку сьнежня, зладзіцца другі этап працы Кангрэсу. Беларусазнаўцы з шаснаццаці краінаў сьвету будуць шукаць месца Беларусі ў пэрыяд глябалізацыі.

Заключная частка ІІІ-га Міжнароднага кангрэсу беларусістаў зьбярэ каля 160-ці ўдзельнікаў. Апрача Беларусі, найбольшая колькасьць навукоўцаў будзе прадстаўленая Польшчаю. А таксама прыбудуць навукоўцы зь Нямеччыны, Расеі, Чэхіі, Украіны, і -- нават -- зь Японіі.

Гісторыя Міжнароднае Асацыяцыі беларусістаў вядзецца з 1991 году. Асацыяцыя ўтварылася зь ініцыятывы Нацыянальнага адукацыйнага цэнтру імя Францішка Скарыны. Па словах дырэктаркі Скарынаўскага Цэнтру Любові Ўладыкоўскае-Канаплянік, Асацыяцыя беларусістаў - гэта свайго кшталту прафэсійны саюз людзей, якія навукова дасьледуюць Беларусь як фэномэн. Найперш разглядаюцца культуралягічны й гуманістычны аспэкты. Адпаведна, сярод суарганізатараў Кангрэсу -- такія ўстановы, як Міністэрства культуры, Міністэрства замежных справаў, Міністэрства адукацыі, Нацыянальная акадэмія навукаў.

ІІІ-ці Кангрэс завершыцца абмеркаваньнем чатырох важных пытаньняў. Першае -- "Што нясе глябалізацыя: узаемаўзбагачэньне нацыянальных культураў ці ўніфікацыю?". Другое – "Фармаваньне нацыянальнае сьвядомасьці й дзяржаўнасьці беларускага народу ва ўзаемадзеяньні й параўнаньні з аналягічнымі працэсамі ў суседніх краінах". Трэцяе -- "Беларуская дыяспара як пасярэдніца ў дыялёгу цывілізацыяў". І нарэшце -- "Дыялёг як сродак гарманізацыі адносінаў паміж этнічнымі й канфэсійнымі супольнасьцямі Беларусі".

Вырашэньню пералічаных пытаньняў замінае адна прынцыповая праблема. У беларусаў адсутнічае выразная Нацыянальная ідэя. Прычым, нацыянальная ідэя ня выпрацаваная аніводнымі з бакоў грамадзтва, незалежна ад спаведаных палітычных перакананьняў.

Адзін бок грамадзтва паслугоўваецца састарэлымі савецкімі гістарычнымі мітамі. Другі -- спрабуе вынайсьці свой гістарычны міт, будаваны на ідэалах незалежнасьці. Але ж усялякі міт паўстае на падмурку навуковых дасьледаваньняў.

Застаецца спадзявацца, што ІІІ Міжнародны кангрэс беларусістаў наблізіць беларусаў да паўставаньня Нацыянальнае Ідэі.

## Канцэпцыя беларусізацыі для БДУ

Мар'ян КАРЫМОНТ

**Таварыства беларускай мовы выпрацавала канцэпцыю пераводу Белдзяржуніверсітэта на выкладанне ўсіх прадметаў беларускай мовай. Тыдзень таму гэты дакумент быў дасланы рэктару БДУ Аляксандру Казуліну.**

Канцэпцыя пераводу галоўнай ВНУ краіны на беларускамоўнае навучанне з'явілася ў выніку папярэдніх адмысловых перамоваў паміж кіраўніцтвам ТБМ і універсітэтам, дзе заявілі, што быццам бы гатовыя ў моўным пытанні адпавядаць назве і статусу «беларускага» і «дзяржаўнага». Іншая справа, наколькі ўсё рэальна. Беларускі дзяржаўны універсітэт не стаў беларускамоўным у куды больш спрыяльных умовах: паводле прынятай разам з Законам аб мовах 10-гадовай Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы БДУ павінен быў быць такім сёлета.

ТБМаўская канцэпцыя разлічаная ўсяго на 5 гадоў. Станавіцца беларускамоўнымі і такім чынам уваходзіць у Нацыянальны інстытут (НІ) у межах БДУ факультэты будуць па чарзе. Мяркуецца, што ў 2000-2001 навучальным годзе на беларускамоўе перавядуць філалагічны і гістарычны факультэты, потым – журфак і факультэт дауніверсітэцкай падрыхтоўкі, далей – біяфак, хімфак, геафак і факультэт міжнародных адносінаў, яшчэ праз год – фізічны, механіка-матэматычны, філасофска-эканамічны і юрыдычны факультэты. Для небеларусаў у БДУ прадугледжваецца магчымасць навучацца ў рускамоўнай плыні.

Старшыня ТБМ Алег Трусаў кажа, што перавод на амаль поўнае беларускамоўе БДУ не ёсць трансфармацыяй ажыццяўлення ідэі Беларускага Нацыянальнага Універсітэта. Ад яго стварэння тут адмаўляцца не збіраюцца. На сённяшні дзень у падтрымку гэтага сабрана звыш 35 тысячаў подпісаў.

# Трызуб і Пагоня

*супраць сярпа і молата*

У Севастопалі адбыўся суд паводле грамадзянскага пазову героя Савецкага Саюзу адмірала Ўладзімера Піліпенкі ў справе абароны годнасьці да севастопальскага камітэту кампартыі Ўкраіны. Газэта гаркаму кампартыі "Севастопольская правда" абразіла баявога адмірала, назваўшы яго здраднікам. Адмірал праводзіць вялізную працу дзеля кансалідацыі грамадзтва Ўкраіны, прымірэньня усіх бакоў, што ўдзельнічалі ў другой сусьветнай вайне, уключна з Украінскай Паўстанцкай Арміяй, якая да 1959 году змагалася супраць камуністычнага рэжыму. Інтарэсы Ўладзімера Піліпенкі ў судзе прадстаўляў Валеры Барташ – старшыня Севастопальскага таварыства імя Максіма Багдановіча "Пагоня". Пасьля працяглага слуханьня справы пазоў адмірала быў задаволены.

Але гэта далёка не адзіная добрая справа на рахунку севастопальскай "Пагоні". Нядаўна таварыства адзначыла 160-я ўгодкі з дня нараджэньня вядомага украінскага біёляга Аляксандра Кавалеўскага, ураджэнца Віцебшчыны. Сябры "Пагоні" наведалі інстытут вучонага. А яшчэ яны зрабілі ўзыходжаньне да руінаў замку ў Балаклаве, якія некалі ў санэце апеў Адам Міцкевіч. На вяршыні гары чыталі вершы паэта і ўсталявалі бел-чырвона-белы сьцяг. Яшчэ адна справа севастопальцаў – удзел у мітынгу памяці ахвяраў галадамору і палітычных рэпрэсіяў ва Ўкраіне. Між іншым, апроч беларусаў, у мітынгу ўдзельнічалі украінскія крымскататарскія арганізацыі і расейскі "Народна-працоўны саюз". У рэзалюцыі патрабуецца перайменаваць вуліцы, што носяць імёны камуністычных дзеячоў.

Мікола МАТУКОЎСКІ, (Беларусь)

# ПРАЎДА ПРА КУРАПАТЫ

...Яна раскрылася вясной 1998 году выпадкова. Спачатку экскаватаршчык М. Таран, рыхтуючы траншэю для газаправоду, вывернуў з зямлі чалавечыя чарапы і дзьве пары ботаў, затым менскія школьнікі ў час ваенна-спартыўнай гульні "Зарніца", капаючы "акопы", знайшлі рэшткі больш трыццаці чалавек. Усіх патрэсла адна дэталь: у кожным чэрапе — дзірка ад кулі, як правіла — у патыліцы. Значыць, масавае забойства? Але хто — ахвяры і хто — забойцы?

Археолагі Інстытуту гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук выказалі на старонках газэты "Літаратура і мастацтва" адназначную і пэўную думку: у Курапатах выяўлены рэшткі ахвяр сталінскіх рэпрэсіяў у 1937-1941 гг. Але адной здагадкі вучоных недастаткова, патрэбны былі бясспрэчныя, неабвержныя доказы, а самае галоўнае — непасрэдныя сьведкі.

14-га чэрвеня пракурор Беларусі Г. Тарнаўскі ўзбуджае крымінальную справу па факту знаходжаньня невядомых захаваньняў. Была неадкладна створана ўрадавая камісія, у якую, акрамя спэцыялістаў з праваахоўных органаў, увайшлі вядомыя грамадзкія дзеячы — пісьменьнік Васіль Быкаў, народны мастак Міхась Савіцкі, герой Савецкага саюзу М. Осіпава і іншыя вядомыя людзі.

За некалькі месяцаў група — сьледчыя Н. Нічыпарэнка, А. Каўрыга, А. Абадоўскі — правяла вялікую дасьледчую работу. Ускрыты 8 з 510 знойдзеных захаваньняў, зроблены шматлікія і разнабаковыя экспэртызы, знойдзены і дапрошаны 170 сьведкаў. Праз столькі гадоў!

Горкая думка не дае мне спакою. Ну, а калі-б дзеці праводзілі сваю гульню-вайну і капалі "акопы" ў іншым лесе? Калі-б траса газаправоду прайшла на два-тры кілямэтры лявей ці правей? Чаму трагедыя ў Курапатах некалькі дзесяцігодзьдзяў была спавіта тайнай? Яшчэ-ж жывыя людзі, якія бачылі, чулі і памятаюць усё, што тут адбывалася! Незразумелы фэномен: мы доўгія гады памятаем дробязныя асабістыя крыўды, несправядлівае слова, кінутае ў гарачцы. І забываем тое, што забываць недаравальна. Што гэта? Проста абывацельскае нежаданьне "сыпаць соль на раны", варушыць старое, абыякавасьць да свайго мінулага, да сваёй гісторыі ці... страх і сорам перад ёй? Нядзіўна, што ў атмасфэры грамадзянскай абыякавасьці сёй-той усё больш настойліва бярэ пад абарону "вялікага правадыра": маўляў, ён асабіста ў гэтым не вінаваты — нічога гэтага ён ня ведаў...

Кіньце!

Усё ведаў! І не таму, што яму акуратна даносілі, а таму што выканаўцы заўзята і дакладна выконвалі яго "тэорыю", што чым больш будзе ў краіне сацыялізму, тым больш будзе ў ёй ворагаў, тым больш каварна будуць яны супраціўляцца сацыялізму. Дзікая "тэорыя" і ня менш дзікая "практыка"...

Гартаю пратаколы допытаў, заключэньні экспэртызы і міжвольна сам у сябе пытаю: а можа, і сапраўды хопіць ужо "мучыць" чытача новымі фактамі злачынства сталіншчыны, дастаткова таго, што яны страшэнна пакутуюць ад праблем сёньняшняга дня. Але я ўспомніў, што параўнаўча нядаўна нехта І. Шаўцоў падаваў у суд на Алеся Адамовіча за "зьнявагу правадыра", успомніў, як ваяўніча патрабуюць яны "не чапаць бацьку народаў", не перабольшваць маштабы злачынстваў. Маўляў, нікому гэта ўжо не патрэбна!..

Слова дакумантам і сьведкам. Усё, што сабрана ў працэсе рассьледваньня, працытаваць проста немагчыма, прывяду ўсяго толькі некалькі лісткоў з крымінальнай справы, каб хоць прыблізна намаляваць жудасную карціну, якая адбылася ўсяго толькі ў адным месцы краіны — Курапатах.

**З пастановы аб спыненьні крымінальнай справы:**

"Згодна заключэньня комплекснай судова-мэдыцынскай і крымінальістычнай экспэртызы, чалавечыя астанкі, знойдзеныя ў шасьці захаваньнях, належаць ня меньш як 391 чалавеку. 114 з іх — мужчынскага полу, 21 — жаночага, па іншым рэштакм пол устанавіць немагчыма. Узрост людзей ад 20 да 60 гадоў. У захаваньнях знойдзены 164 гільзы і 21 куля ад рэвальвэра "наган" узора 1895 года і адна гільза "ТТ".

...У 192 выпадках з 213 дасьледаваных выстралы рабіліся ў патыліцу, астатнія — у скронецемянную частку галавы. У 182 чарапах па адной уваходнай адтуліне, у 29 — па дзьве адтуліны, а у 5 чарапах — па тры ўваходных адтуліны...

Крыміналістычнай экспэртызай дасьледваліся абутак і прадметы, знойдзеныя ў захаваньнях. Сорак пяць адзінак абутку выраблены ў СССР, у тым ліку на маскоўскай фабрыцы "Чырвоны багатыр", дваццаць восем — на ленінградзкай фабрыцы "Чырвоны трохвугольнік". Дваццаць пяць адзінак абутку — кустарнай вытворчасьці: самадзельныя боты, галёшы з аўтамабільных камер. У кашальках знойдзены 78 манет па 2, 3, 10, 15, 20 і 50 капеек; усе манеты выпушчаныя ў СССР у 1925, 1926, 1928, 1933, 1935 і 1936 гадах.

І толькі адна рэч з усіх знойдзеных "загаварыла". На адной з расчосак нечым вострым нашкрабана па-польскі: "Цяжкія мінуты зьняволенага. Мінск. 25.4.1940. Думкі пра вас даводзяць да роспачы. 26.4. (расплакаўся — цяжкі дзень)" Але і той, хто напісаў гэтыя горкія словы ў мінуты роспачы, застаўся безыменным. Гартаю пратаколы допытаў сьведак. Можа быць, там узьнікне імя хоць адной ахвяры?

У ходзе сьледства знойдзены 55 сьведкаў з накальных вёсак Ціна, Забалоцьце, Драздова, Малінаўка, Зялёны Луг, якія былі відавочцамі падзеі: М. Лантосава, В. Камароўская, В. Чэрвінская, Е. Мацкевіч, М. Хоміч, В. Ермаловіч, В. Прагодзкая і інш. Яны бачылі, як работнікі НКВД прывозілі ў лес людзей на закрытых машынах і расстрэльвалі іх, бачылі засыпаныя і незасыпаныя магілы, бачылі расстраляных людзей, якія ляжалі ў незасыпаных магілах.

Ці можна памятаць тое, што бачыў 50 гадоў назад? Каб пераканацца ў праўдзівасьці паказаньняў сьведкаў, сьледчыя правялі экспэрымент. Яны папрасілі сьведку М. Карповіча паказаць у лесе месца, дзе праводзіліся расстрэлы. І хоць лес у Курапатах за многія дзесяцігодзьдзі зьмяніўся, ён прывёў сьледчых і ўпэўнена сказаў: вось тут. Пачалі капаць і знайшлі новую вялікую магілу з чалавечымі касьцямі.

**М. Карповіч:** "Агароджа была шчыльная, з дошак, аднак да канца ў 1937 годзе не дабудаваная. Унутры была ахова НКВД у форме ахоўнай афарбоўкі. Завозілі людзей вечарам. Разы са два мне давялося бачыць, як іх расстрэльвалі. Іх ставілі над ямай у рад... Мы з бацькам падышлі да ямы, яма была вялікая, каля пяці мэтраў, поўная трупаў, прыкрытых галінкамі. Мы прыўзьнялі галінкі і ўбачылі людзей. Апрануты яны былі проста, у куртках, у ботах, відаць, вясковыя..."

**М. Няхайчык:** Мы з дзецьмі пасьля праезду машын лічылі выстралы, іх было трыццаць — сорак, іншы раз семдзесят. Звычайна прыязджалі па 2-3 машыны, але бывала, што і па 6-7 машын."

**С. Хмельнікава:** "У 1939-40 гадах людзей расстрэльвалі ўнутры абгароджанай плотам тэрыторыі, якую ахоўвалі вартавыя. Іншы раз расстрэльвалі кожны дзень, іншы — праз некалькі дзён. Былі чуваць выстралы і людзкія крыкі. Як правіла, людзей расстрэльвалі вечарам і ўначы. Іх прывозілі з боку Мінска на крытых машынах".

**І. Аляхно:** "... Пра тое, што ў лесе расстрэльвалі людзей, я даведаўся ад Бацяна Рыгора Іванавіча. Ён жыў у вёсцы Цна і працаваў у НКВД. Аднойчы Бацян, падвыпіўшы, расказаў, што сам удзельнічае ў расстрэлах. За балбатлівасьць яго затым выгналі з НКВД."

Пяцьдзесят пяць відавочцаў расказваюць амаль адно і тое-ж, паўтараючы адзін аднаго. Многія ўспомнілі: неўзабаве ў лесе на месцы расстрэлаў пачалі расьці ярка-чырвоныя грыбы, якія па форме нагадвалі лісічкі. Ніхто, ні дарослыя, ні дзеці іх не зьбіралі і глядзелі на іх з жудасьцю.

Але ніхто са сьведкаў не назваў ніводнага прозьвішча расстраляных. Яны проста не маглі іх ведаць. Затое ўсплыло на паверхню прозьвішча аднаго з катаў — Бацян Рыгор Іванавіч. Сьледчыя "капалі" ўсё глыбей і глыбей. Яны знайшлі некалькі былых работнікаў НКВД, якія мелі прамыя адносіны да злачынства ў Курапатах.

**С. Харытановіч** /працаваў "вывадным" ва ўнутранай турме па вуліцы Ўрыцкага/: "...Са сьледчых НКВД я памятаю толькі Шэйкіна. Яго таксама арыштавалі ў 1938 годзе і ўтрымлівалі ў турме па вуліцы Валадарскага. Часта сьледчыя загадвалі нам не даваць вязьням спаць уначы, што мы і рабілі. Калі арыштаваны засынаў, мы яго будзілі. Прозьвішчы зьняволеных не памятаю. Мы выводзілі іх з камеры на машыну. На машыну садзілі па 15-20 чалавек. Куды іх вывозілі — невядома. Толькі аднойчы мяне вазілі закопваць магілы... Трупы ў магіле ўжо былі трохі прысыпаны, а мы толькі раўнялі іх з зямлёй. У расстрэлах удзельнічалі ўсе дзяжурныя турмы — Коба /якое супадзеньне прозьвішчаў!/, Абрамчык Фама, а таксама начальнік — Ермакоў. Уначы пасьля расстрэлу яны прыязджалі гадзіны ў тры ці чатыры, затым да раніцы пілі ў сталовай НКВД. На наступны дзень прыходзілі на працу пазьней.

Абрамчык Фама расказваў, што людзей ставілі да ямы і стралялі ў іх з наганаў. Людзі перад расстрэлам крычалі: "Няхай жыве савецкая ўлада! Няхай жыве Сталін!" У 1938 годзе сталі арыштоўваць работнікаў НКВД, якія прымалі ва ўсім гэтым удзел. Не вытрымаўшы, застрэліўся намесьнік каменданта Ермакоў... Са мной працаваў вывадным Тарарухін. Ён не вытрымаў і напісаў рапарт на звальненьне. Яго расстралялі. Я таксама напісаў рапарт, на камсамольскім сходзе мне аб'явілі суровую вымову, і я вымушаны быў працаваць далей... Коба Сьцяпан даслужыўся да палкоўніка, ён быў сябрам Цанавы, памёр у 1948 ці 1949 годзе."

Бадай, самым страшным у той час было слова "НКВД". Яго вымаўлялі шэптам, з аглядкай. Але нават у той час і ў НКВД знаходзіліся людзі, якія заставаліся людзьмі, нягледзячы ні на што. Напрыклад, дапрошаны ў якасьці сьведкі былы пракурор Г. Ручан за адмову санкцыянаваць сфальсыфікаваныя справы на разгляд "тройкі", быў зьняты з пасады. Некалькі менскіх пракурораў за такое-ж паплаціліся жыцьцём.

**В. Карпік** /былы старшыня спэцкалегіі Вярхоўнага суду БССР/: "... Кіраўніцтва НКВД рэспублікі заахвочвала фізычныя меры ўзьдзеяньня ў час допытаў. У справах адсутнічалі доказы віны арыштаваных. Я неадназразова накіроўваў такія справы на дадатковае дасьледваньне, за што і быў абвінавачаны ў лібаралізьме і ў 1938 годзе адхілены ад пасады і выключаны з партыі."

Сьпіс сьведкаў можна працягваць і працягваць. Але я настойліва гартаю старонку за старонкай, імкнучыся знайсьці хоць-бы адно імя, хоць-бы аднаго чалавека, загінуўшага ў Курапатах. І вось знаходжу аркуш, які не пакідае амаль ніякіх надзей. Допыт былога работніка НКВД К. Кулінковіча, які працаваў у НКВД опэрупаўнаважаным:

"...Дваццаць пятага чэрвеня 1941 году наша арганізацыя эвакуіравалася ў Магілёў. Аднак назаўтра мяне ў складзе опэргрупы накіравалі ў Мінск для зьнішчэньня архіваў райкомаў, гаркома партыі і НКВД. Да нашага прыбыцьця ў Мінск гэтыя архівы былі ўжо зьнішчаны ў час бамбёжак і пажараў. Усё, што засталося, зьнішчылі мы і затым вярнуліся ў Магілёў".

Але-ж хоць што-небудзь ды захавалася! Гэтаеж пацьвердзіў у час сьледства былы работнік МГБ БССР В. Міхаевіч, які ў 1950-х гадох меў доступ да архіўных спраў НКВД. Спраў было шмат, але ў кожнай справе па некалькі допытаў, што зьмяшчаліся на 2-3 старонках. Усе абвінавачаныя былі маладымі людзьмі, што перайшлі граніцу ў 1937-38 гадох. Усе справы былі "скроены" аднолькава: на першай старонцы абвінавачаны не прызнаваў сябе вінаватым, на другой ужо гаварыў, што ён агент зарубежнай

разьведкі, а ў канцы старонкі надпіс: ВМН /высшая мера наказанія/. І словы: "Прыгавор прыведзены ў выкананьне ў Мінску". Але няма нават намёка на месца пакараньня. Больш таго, ёсьць сьведчаньні /яны зафіксаваныя ў справе/, што так званых "ворагаў народа" расстрэльвалі ня толькі ў Курапатах.

Ня будзем забываць, што сьляды злачынстваў старанна і ўмела хаваліся. Зьнішчаліся ня толькі справы... Сьледztвам па справе аб Курапатах выяўлена больш сарака былых работнікаў НКВД. Частка з іх, у тым ліку былы намесьнік сьледчага аддзелу А. Волчак, намесьнік начальніка аддзелу І. Кунцэвіч, сьледчыя В. Быхоўскі, В. Ермалаеў, К. Куляшоў і іншыя прыцягнуты да крымінальнай адказнасьці. Прыгавораны да пазбаўленьня волі. Многія з іх ужо памёрлі, загінулі ў час вайны, а месца жыхарства іншых устанавіць не ўдалося... У прыгаворы сказана: "За парушэньне законнасьці".

Так, сапраўды яны таптaлі закон, але забралі іх не за гэта — каб захаваць у вачах народу чыстымі і невінаватымі галоўных катаў у Менску і ў Маскве. Паглядзіце, якая цікавая хроніка атрымліваецца. "За парушэньне сацыялістычнай законнасьці" і іншыя дзяржаўныя злачынствы прыцягнуты да крымінальнай адказнасьці наркомы НКВД БССР:

Малчанаў Г. А. — былы нарком НКВД з 28.ІІ.36 г. па 4.2.37 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакараньня 2 лістапада 1937 г.

Бэрман Б. Д. — былы нарком НКВД з 4.3.37 г. па 22.5.37 г. Прыгавораны да вышэйшай меры пакараньня 22 лютага 1939 г.

Наседкін А. А. — былы нарком НКВД з 22.5.37 г. па 17.12. 38 году. Прыгавораны да вышэйшай




меры пакараньня 25 студзеня 1939 году.

Самі каты станавіліся ахвярамі таго жудаснага молаха, той сыстэмы, якую мы сёньня называем сталіншчынай. Хто паверыць, нібыта Сталін ня ведаў, за што і чаму зьнішчаліся ў рэспубліках наркомы НКВД?

Апошняя старонка апошняга тому: "З пастановы аб спыненьні справы: такім чынам сьледства дакладна ўстанавіла, што з 1937 па 1941 год у лясным масыве Курапаты органамі НКВД рабіліся масавыя расстрэлы. Устанавіць асобы расстраляных як і канкрэтныя доказы пакараньня /нібыта іх тады шукалі, гэтыя доказы!/ не зьяўляецца магчымым..." Прымаючы пад увагу, што вінаватыя ў гэтых рэпрэсіях кіраўнікі НКВД БССР і іншыя асобы таксама прыгавораны да пакараньня сьмерцю або памёрлі, справа спынена.

Мы так і ня зможам сказаць, хто быў расстраляны ў Курапатах. Што гаварыць пра канкрэтныя прозьвішчы, калі нельга назваць нават дакладную лічбу ахвяр! Сьледчыя кажуць, што ў 510 мяркуемых захаваньнях ляжаць косьці ня менш трыццаці тысяч чалавек. Археолягі называюць лічбу значна большую, сьцьвярджаючы, што частка магіл /зноў невядома колькі!/ трапіла пад кальцавую дарогу, якая праходзіць па ўскрайку лесу...

**Замест заключэньня.** Але не такія бальшавікі, каб так лёгка здавацца нават дзяржаўнаму суду, дзяржаўнаму пракурору!.. Двойчы пасьля прыгавору яны ўздымалі гэтую справу, спрабуючы даказаць, што гэта не НКВД, а фашысты ў час вайны расстрэльвалі тут людзей. А прыгавор суда — гэта паклёп на работнікаў НКВД, КГБ і вядома-ж — на Сталіна!..

Але суд застаўся на вышыні. Ён хоць і вымушаны быў яшчэ раз праверыць гэтую справу, але ранейшага прыгавору не адмяніў. Відаць, умяшаўся вышэйшы суд, Божы...

# ЗАПРАШЭНЬНЕ ДА ДЫЯЛЁГУ

30-га кастрычніка 2000, апоўдні, ва ўнівэрсытэцкім дворыку Белдзяржунівэрсытэту, у рамках сьвяткаваньня 79-й гадавіны гэтай навучальнай установы і "Дня Ўнівэрсытэту" адбылося ўрачыстае адкрыцьцё помніка выдатным беларускім асьветнікам Сымону Буднаму і Васілю Цяпінскаму. Вельмі добра, што рэктар БДУ праводзіць пасьлядоўную праграму мастацкага ўвасабленьня лепшых прадстаўнікоў Асьветніцтва на Беларусі. Самая паважная вышэйшая навучальная ўстанова краіны штодзённа знаёміць сваіх студэнтаў з тытанамі духу, вялікімі падзьвіжнікамі беларускай культуры: Еўфрасіньняй Полацкай, Францішкам Скарынам, Міколам Гусоўскім. І вось да гэтай слаўнай кагорты далучыліся новыя прадстаўнікі-генэратары гуманістычных рэфармацыйных ідэяў на Беларусі ХУІ ст.

Вельмі сымвалічна тое, што С. Будны і В. Цяпінскі прыпісаліся ў Белдзяржунівэрсытэце. Менавіта яны былі сьведкамі заснаваньня найстарэйшай навучальнай установы ў Беларускай дзяржаве, якая тады называлася Вялікае княства Літоўскае, Віленскага ўнівэрсытэта ў 1570 г.

Гэтыя выдатнейшыя постаці навукі і культуры сталі зьвязуючым зьвяном паміж двума вышэйшымі навучальнымі ўстановамі нашай дзяржавы, сымвалам пераемнасьці і захаваньня вялікіх традыцыяў Адраджэньня.

Славуты асьветнік таго часу Сымон Будны, разам з паплечнікамі Лаўрэнціям Крышкоўскім, Мацеем Кавячынскім, пад патранатам князя Міколы Радзівіла Чорнага, заснаваў друкарню ў Нясьвіжы, дзе ў 1562 г. выдаў першую на тэрыторыі сучаснай Беларусі кнігу на беларускай мове — "Катэхізіс" — і шэраг іншых кніг, у якіх выявіў сябе як таленавіты філосаф і філолаг, гісторык і паэт.

Васіль Цяпінскі (Амельяновіч) быў паплечнікам С. Буднага ў гуманістычна-асьветніцкай дзейнасьці, падзяляў яго рэлігійныя і грамадзка-палітычныя погляды, разам з ім адстойваў права дзяржавы і хрысьціянскага грамадства весьці справядлівыя войны супраць нашэсьцяў і пагрозы тыраніі. У 1570-х гадох ён на ўласныя сродкі заснаваў у сваім маёнтку Цяпіна друкарню і выдаў "Евангельле" са знакамітай прадмоваю, якая адрозьніваецца ад іншых вядомых прадмоў беларускіх старадрукаў публіцыстычнай гарачай прыхільнасьцю, патрыятычным запалам. У ёй асьветнік ставіў пытаньні ўздыму нацыянальнай культуры, школьнай справы, пісьменства, кнігадрукаваньня, умацаваньня грамадзкіх пазыцыяў беларускай мовы.

З гістарычных крыніц вядома, што С. Будны і В. Цяпінскі неаднаразова сустракаліся, разам удзельнічалі ў антытрынітарскіх сынодах. З ХУІ ст. дайшлі да нашага часу іх партрэтныя графічныя выявы.

Ідэя стварэньня парнай скульптуры і сама канцэпцыя помніка, які ўвасабляе абодвух асьветнікаў у момант дыялогу, плённага абмену думак належыць руплівцу на ніве нашай Бацькаўшчыны Анатолю Беламу, які падараваў БДУ ўжо некалькі скульптураў, (аб чым раней пісалася ў прэсе). Ён-жа стаў і кіраўніком гэтага праекту.

Рэктар Белдзяржунівэрсытэту Аляксандр Казулін, як чалавек сучасных прагрэсыўных поглядаў, ня толькі ўхваліў гэтую канцэпцыю, але і падтрымаў яе, стаў яе гарачым прыхільнікам, таму што ён убачыў у ёй шмат таго новага, чаго раней не сустракалася ў ранейшых помніках.

Па гэтай канцэпцыі скульптурныя фігуры павінны былі мець памеры блізкія да антрапамэтрычных — усяго 1,25 сярэдніх памераў чалавека. Кампазыцыя не павінна была ўзвышацца на высокім пастамэнце (над чалавекам) і міжволі падаўляць яго, а стаяць на нізкім стылабаце, проста на газоне на фоне дрэў, каб назіральнік адчуваў сябе на роўных з вялікімі асьветнікамі.

Паміж С. Будным і В. Цяпінскім павінна было застацца свабоднае месца для шараговага "шкаляра"- студэнта, які можа сесьці паміж імі і далучыцца да дыспуту вялікіх людзей і тым самым міжволі ўсьвядоміць і сваю веліч, і свае патэнцыянальныя магчымасьці стаць калі-небудзь і самому вялікім і праслаўленым...

Такі накірунак у манумэнтальным мастацтве, дзе дапускаецца прысутнасьць гульні, жарту і непасрэднага ўдзелу самога назіральніка, хоць на Беларусі і новы, але ў Эўропе ён ужо заваяваў



права на існаваньне.

Ажыцьцявіў гэтую ідэю таленавіты і працавіты скульптар Ігар Голубеў, якому належыць цэлы шэраг помнікаў выдатным прадстаўнікам культуры Беларусі (нагадаем Я. Драздовіча, У. Караткевіча, Еўфрасіньню Полацкую). У новай рабоце скульптар прадстае перад намі як майстар складанай скульптурнай кампазыцыі, якая спалучае ў сабе дынаміку і статыку, гістарычную дакладнасьць і набліжанасьць да сучаснасьці.

На масыўнай дубовай рэнэсанснай лаве сядзяць два знакамітыя чалавекі. Аб чым яны гавораць? Можа аб адвечных філасофскіх праблемах — для чаго жыве чалавек?; для чаго існуе народ, для чаго існуе ўсё чалавецтва? А можа яны гавораць аб тым, як зрабіць шчасьлівым і свабодным жыцьцё паспалітых людзей на Беларусі? Тут кожнаму назіральніку дадзена права ўявіць самому аб чым ідзе дыялёг і далучыцца да яго, таму што паміж суразмоўцамі мы адчуваем радасьць адзінства мысьленьня, "інтэлектуальная дуга", якая замыкае кампазыцыю ў адзінае мастацкае цэлае і скіравана да нас, нашчадкаў. Гэты эфэкт дасягаецца мовай пластыкі, дынамічнымі разваротамі фігур, прасьвятленнасьцю твараў. Адзін з асьветнікаў прадстаўлены ў аскетычным манаскім адзеньні, другі — у багатым шляхецкім убраньні часоў эўрапейскага рэнэсансу. Яны розныя, але іх аб'ядноўвае агульнасьць ідэалаў, душэўная прыгажосьць, пачуцьцё патрыятызму.

Талерантнасьць, уменьне весьці дыялёг, уважліва слухаць свайго суразмоўцу і атрымліваць ад яго нешта карыснае для сябе — вось што бракуе сучаснаму нашаму грамадзтву.

С. Будны і В. Цяпінскі ня толькі даюць нам прыклад вялікай грамадзянскай талерантнасьці і вялікай павагі да сваіх апанэнтаў, але запрашаюць і нас узяць удзел у іх дыялёгу, бо на лаве паміж імі ёсьць месца для кожнага з нас. Дык далучымся да іх і будзем такімі-ж дабразычлівымі адзін да аднаго, як нашыя вялікія папярэднікі эпохі Адраджэньня. Першы з асьветнікамі прысеў і сфатаграфаваўся рэктар БДУ. З гэтага дня кожны выпускнік унівэрсытэту будзе мець свой аналагічны фотаздымак, як візітную картку "alma mater".

*Уладзімір Новікаў, Беларусь.*

**У штодзённай мітусьні і дрымоце, — не забывайце дапамагаць нашай газэце!.**






Сьв. Памяці

# Дзьмітры Груша

**3-2-1934 — 22-8-2000**

Сьв. Памяці Дзьмітры Груша нарадзіўся ў вёсцы Морач, Клецкага раёну, Менскае вобласьці.

Прыехаў у Аўстралію ў 1949 годзе. Быў актыўным у арганізацыі беларускай моладзі, належаў да Беларускіх скаўтаў у Мэльбурне, — да зьвязу ім. Усяслава Чарадзея. Быў футбалістам дружыны "Зубар", быў удзельнікам капаратыву Беларускага дому. Прымаў вельмі актыўны ўдзел у пабудове БАПЦ ды царкоўнага будынку ў Мэльбурне.

Апошніх 11-ць год жыў на фарме, 126 км. ад Мэльбурну, каля м. Баларат, дзе і памёр...

Пахавальны абрад выканаў а. А. Кулакоўскі, настаяцель мясцовай БАПЦ у Мэльбурне. Пахаваны на беларускім участку магільніка "Фокнэр" пры ўдзеле шматлікіх родзічаў, блізкіх сяброў і знаёмых беларусаў.

Хай будзе Яму пухам Аўстралійская зямля.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

Заміж кветак на сьвежую магілу Дзьмітра Грушы зглажылі ахвяры, на газэту "Беларускі Дайджэст", наступныя асобы:

| | |
|---|---|
| 1. А. Груша | 50.оо |
| 2. П. Груша | 20.оо |
| 3. М. Л. Груша | 20.оо |
| 4. Т. Д. Груша | 20.оо |
| 5. а. А. Грыцук | 20.оо |
| 6. С. Саўка | 20.оо |
| 7. П. Гуз | 20.оо |
| 8. А. Корбут | 20.оо |
| 9. А. Шнэк | 10.оо |
| 10. А Гуюдж | 10.оо |
| 11. А. Яшчэнко | 10.оо |
| 12. М. Сасноўскі | 10.оо |
| 13. С. Дройт | 10.оо |
| 14. Т. Сасноўскі | 5.оо |
| 15. У. Пенев | 5.оо |
| 16. За продаж газэты | 50.оо |

Усяго разам: 300.оо Аўстралійскіх даляраў.









Сьв. Памяці

# ТАНЯ ПЛЕСКАЧ

**4 ліпеня 1921 — 21 лістапада 2000**



адыйшла на вечны супачынак 21.XI.2000 г. пакінуўшы ў вялікім смутку мужа Васіля, сына Пятруся, тры дачкі: Сьвятлану Волпі, Елену Шаўвэр і Марыю Плескач-Сатэрланд, сястру, брата ды сямёра ўнукаў, а таксама шмат прыяцеляў і знаёмых.

Паховіны адбыліся ў Дэтройт, ЗША. на White Chapel Cemetery. Пахавальны абрад выканаў а. Леў Капісьцянскі з Праваслаўнае Царквы Сьв. Тройцы.

Сьв. Памяці Таня паходзіла з Наваградчыны, дзе здабыла настаўніцкую асьвету і адкуль праз Нямеччыну выехала ў Амэрыку. Таня была дбайнай жонкай і выдатнай маткай. Яе вялікая актыўнасьць на нацыянальна-адраджэнскай ніве вызначалася самаахвярнасьцю, руплівасьцю і вялікім патрыятызмам. Была глыбока рэлігійнай, любіла сваю Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, кіравала царкоўным хорам 15 год і заўсёды сьпявала ў царкоўных або сьвецкіх хорах.

Нябожчыца Таня была адной з найбольш дзейных прапагандыстак беларускай незалежніцкай ідэі і вызначалася вялікай гуманнасьцю, разуменьнем і беларускім сяброўствам. Ні адна беларуская імпрэза не адбылася без удзелу Тані Плескач. Беларуская грамадзкасьць Дэтройту страціла сваю вельмі актыўную і працавітую сяброўку.

**Сьпі спакойна дарагая Таня і няхай амэрыканская зямля будзе Табе пухам.**

**ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!**



## НАМ ПІШУЦЬ...

Паважаны спадар Рэдактар!

Беларуская праваслаўная царква Сьвятой Еўфрасіньні Полацкае ў Саўт Рывэры ў штаце Нью Джэрзі, якая належыць да юрысдыкцыі Ўсяленскага Канстантынопальскага Патрыярха, сьвяткавала 50-я ўгодкі свайго існаваньня 22-га кастрычніка 2000 году. Разам з сьвятарамі беларускіх і ўкраінскіх парахвіяў сьвяточную літургію адправіў прадстаўнік Экзарха Ўсяленскага Патрыярха Мітрапаліт Мікалай. Пасьля сьвяточнага набажэнства, падчас банкету, ладжанага ў прыцаркоўным Беларускім Грамадзкім Цэнтры, Мітрапаліт Мікалай, які, на вялікі жаль, ня мог застацца да канца банкету, прыгожа вітаў парахвіянаў з залатым юбілеем.

Цёплыя словы прывітаньняў выказалі сьвятары — госьці з іншых парахвіяў. Цікавую прывітальную прамову-справаздачу з гісторыі царквы ад самага пачатку яе існаваньня сказаў сябра Царкоўнага Камітэту спадар Віталь Цярпіцкі, а старшыня Царкоўнага Камітэту спадар Робэрт Цупрык у сваёй прамове, дзякаваўшы харыстам і сястрыцтву, спыніўся на гаспадарчым аспэкце царкоўнай дзейнасьці.

Цёплымі словамі вітаў парахвіянаў царквы Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры, бадай найбольшым беларускім асяродку ў Амэрыцы, спадар Васіль Шчэцька, прадстаўнік царквы Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Рычманд Гіле (штат Нью Ёрк), царквы, якая таксама належыць да юрысдыкцыі Экзарха Ўсяленскага Канстаннопальскага Патрыярхату.

Прыгадаўшы час нашага беларускага пасьляваеннага асталяваньня ў Злучаных Штатах і згадаўшы пра арганізацыю рэлігійнага і сьвецкага жыцьця, ад імя Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі прывітальную прамову ў ангельскай і беларускай мовах, пададзеную ніжэй, сказаў адзін з закладчыкаў царквы Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай, аўтар гэтых радкоў.

* * * * * * *

**Паважаныя Айцы і Госьці, Гасьцінныя Саўтрывэрцы, Спадарыні і Спадары!**

Прыгадваючы той час, калі мы пакінулі старую Эўропу, якую мы пяшчотна называлі сваёю мамаю, і пераехалі на новы кантынэнт, які зрабіўся для ўсіх нас другою Бацькаўшчынай, я не магу не прыгадаць нашае прадаўжальніцкае нацыянальнай дзейнасьці — будоўлі беларускіх інстытутаў і незалежніцкіх арганізацыяў у Злучаных Штатах Амэрыкі для дабра нашае Беларусі.

Адным з першых крокаў, якія былі выкліканы духоваю патрэбаю ўсіх нас, было стварэньне царкоўнага камітэту для пабудовы свае беларускае праваслаўнае царквы на новым месцы. Мы былі маладымі. У нас бурліў запал гэтае нашае маладосьці.

І вось, прайшлі гады. Пайшоў ад нас яшчэ ў параўнаўча маладым веку арганізатар царкоўнага жыцьця, закладчык царквы Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай айцец Мікалай Лапіцкі, пакінуў нас патрыёт беларускага праваслаўя айцец Сьвятаслаў Коўш, адыйшоў у лепшы сьвет сябра першага царкоўнага камітэту разважны Хведар Высоцкі, раптоўна і назаўсёды разьвітаўся з намі малады камітэцкі энтузыяст Віктар Літаровіч.

**Мінула, прайшло з таго дня паўстагодзьдзя,**
**З старых пачынальнікаў многіх няма...**
**Скаваны хваробай Брылеўскі Валодзя,**
**Жыве спадар Сенька, жыву неяк я.**

Паменшылася ня толькі-ж сяброў першага камітэту. Няма ўжо ў жывых шматлікіх ахвярадаўцаў і актыўных ўдзельнікаў царкоўнага будаўніцтва. Вечная ім усім памяць! А тым працавітым, немаладым ужо людзям, якія ахвяроўвалі свае грошы, сваю працу і свой час будуючы царкоўны будынак і надаючы царкоўны вонкавы і ўнутраны выгляд гэтаму будынку ў духу нашае беларускае праваслаўнае традыцыі, няхай Усявышні Бог пашле здароўя і ўзнагародзіць іх сваім шчодрым зямным дабрабытам. У гэты дзень мы павінны дзякаваць усім будаўнікам і ахвярадаўцам, бо-ж, глянуўшы на нашае царкоўнае наваколле, мы можам і павінны ганарыцца сваімі дасягненьнямі. Праца ўсіх вас, паважаныя парахвіяны нашае Беларускае Праваслаўнае Царквы, праца ўсіх царкоўных камітэтаў, як кіруючых, гэтак і будаўнічага, нашая беларуская грашовая і працоўная ахвярнасьць і працавітасьць прынесьлі наглядныя, цудоўныя вынікі.

Мы, старэйшыя векам, перадаем нашым малодшым вельмі прыгожы куточак нашае беларускае Амэрыкі. Дык шануйце яго, разбудоўвайце створанае і, кажучы перафразаванымі словамі Францішка Багушэвіча, не пакідайце царквы свае беларускае, каб не памерлі.

Сьвяткуючы нашае славутае пяцідзесяцігодзьдзе, мне вельмі прыемна вітаць вас усіх сваімі вершаванымі радкамі:

**Царкву адбудавалі вы з гадамі,**
**Ахвярнай працаю, са згодай і цяплом,**
**Дык будзь заўсёды ў сэрцы нашым, з намі**
**Свой саўтрывэрскі сьвяты наш дом.**

**Расьціслаў Завістовіч**



## ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Міжнароднага грамадзкага аб'яднаньня Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына".

Паведамляем, што 21 лістапада 2000 году ў памешканьні МГА "Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" пад старшынствам прэзыдэнта арганізацыі Радзіма Гарэцкага адбылося пасяджэньне Рады, дзе было прынятае рашэньне аб правядзеньні, у адпаведнасьці са Статутам МГА "Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", чарговага Трэйцяга Зьезду беларусаў сьвету. Аднагалосна прынята пастанова, што Трэйці зьезд будзе скліканы ў ліпені 2001 году ў г. Менску. Рада зацьвердзіла склад Аргкамітэту і старшыню Рабочай групы па падрыхтоўцы зьезду.

**Алена Макоўская** — старшыня рабочай групы: дарадчык арганізацыйна-юрыдычнага аддзелу Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына"

***Старшыні Аргкамітэту:***

**Радзім Гарэцкі** — прэзыдэнт МГА ЗБС "Бацькаўшчына", Беларусь;

**Вітаўт Кіпель** — сябра Вялікай Рады, ЗША;

**Валеры Герасімаў** — намесьнік старшыні Рады МГА ЗБС "Бацькаўшчына", Беларусь;

**Іван Саверчанка** — сябра Ўправы і Рады МГА ЗБС "Бацькаўшчына", Беларусь

Дадатковая інфармацыя па пытаньнях падрыхтоўкі і правядзеньня Трэйцяга зьезду беларусаў сьвету будзе дасылацца пэрыядычна.

Па ўсіх пытаньнях зьвяртацца да старшыні Рабочай групы Алены Макоўскай па тэлефоне: **289-31-94; 226-87-37**

